Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 40 (4891) 7 кастрычніка 2016 г.
















# МЕСЦА, ДЗЕ ЯДНАЮЦЦА ЭПОХІ

**Гісторыя і сучаснасць не заўсёды аднолькава ацэньваюць адны і тыя ж падзеі, па-рознаму асэнсоўваюць ролю адных і тых жа постацей у развіцці нацыянальнай культуры. Аднак ёсць месца, якое яднае ў сваіх сценах і стваральнікаў традыцый, і тых, хто іх аспрэчвае, месца, дзе перакрыжоўваюцца не толькі лёсы продкаў і спадкаемцаў, але і розныя эпохі, стылі, плыні.**

Такім адзіным вялікім «домам» для прадстаўнікоў усіх, хто спрычыніўся да ўзбагачэння нацыянальнай спадчыны, можна лічыць архіў. Сёння ўжо цяжка ўявіць гістарычную прастору літаратуры, мастацтва, культуры без архіўных фондаў. На іх грунтуюцца навуковыя даследаванні, зборы твораў пісьменнікаў, дакументальнае кіно, дакументальныя выстаўкі і зборнікі.

Традыцыйна 6 кастрычніка ў Беларусі адзначаецца Дзень архівіста. Для нас гэта найперш нагода згадаць Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), які ўжо даўно прызнаны сапраўднай скарбніцай беларускай культурнай спадчыны. Архіў-музей быў створаны ў 1960 годзе як Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР, у 1976 годзе займеў «прыдомак» музей, а сваю сучасную назву атрымаў 21 мая 1993 года. Аднак падрыхтоўка да стварэння спецыялізаванага нацыянальнага архіва распачалася яшчэ ў 1957 годзе, калі ў перыядычным друку сталі з'яўляцца артыкулы, прысвечаныя праблеме годнага захавання спадчыны славутых пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, акцёраў. Спрычынілася, дарэчы, да гэтай справы і газета «Літаратура і мастацтва». Менавіта тут напрыканцы 1957 года быў надрукаваны артыкул Д. Бародзіча «Даўно наспеўшае пытанне», у якім Саюзу пісьменнікаў БССР і адпаведным дзяржаўным органам рэкамендавалася заняцца стварэннем літаратурнага архіва.

Праблема на той час сапраўды была вельмі актуальнай. Калі фонды Янкі Купалы і Якуба Коласа захоўваліся ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва СССР, то рукапісы і дакументы іншых беларускіх пісьменнікаў увогуле знаходзіліся без належнага догляду і ўпарадкавання ў выдавецтвах, рэдакцыях часопісаў і газет, а многае і ў прыватнай уласнасці. Фактычна камплектаванне архіва распачалося адначасова з яго стварэннем. Першым фондам быў архіў паэта Міхася Машары, які паступіў у красавіку 1960 года. Цікава адзначыць, што першы штатны расклад архіва ўключаў усяго трох супрацоўнікаў. Сучасны архіў-музей мае трыццаць два супрацоўнікі і пяць аддзелаў.



Працоўныя моманты сучасных архівістаў.

Фота Кастуся Дробава.



Будынак, у якім месціцца Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

Сёння ў БДАМЛМ захоўваецца 498 фондаў, асноўную частку якіх ствараюць асабістыя архівы пісьменнікаў, кампазітараў, акцёраў і рэжысёраў, мастакоў і скульптараў і многіх іншых. Акрамя гэтага, вялікую цікавасць уяўляюць фонды беларускіх тэатраў, кінастудыі «Беларусьфільм», рэдакцый літаратурна-мастацкіх часопісаў і газет. Ад часу свайго заснавання архіў-музей ствараў і навуковую бібліятэку, што налічвае сёння звыш 24 000 кніг і 30 000 часопісаў і газет.

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва — гэта аўтарытэтная ў сваёй галіне ўстанова, вядомая не толькі ў Беларусі, якая вядзе навукова-даследчую працу ў розных напрамках, ладзіць навуковыя канферэнцыі, творчыя вечарыны, тэматычныя выстаўкі. З 2001 года тут праводзяцца «Узвышаўскія чытанні», прысвечаныя розным аспектам дзейнасці легендарнага літаратурна-мастацкага згуртавання ў кантэксце беларускіх культурных працэсаў першай траціны XX стагоддзя. Ідэя гэтай канферэнцыі стала сапраўдным навуковым вынаходніцтвам, паколькі дала магчымасць аб'яднаць даследчыкаў высілкі архівістаў, літаратуразнаўцаў і гісторыкаў літаратуры. Дзякуючы супрацоўнікам архіва, актыўна далучаюцца да гэтага працэсу і родзічы пісьменнікаў, узбагачаючы агульную карціну каштоўнымі ўспамінамі.

Працяг на 3-й стар.

## Пункцірам

✔ Пры падвядзенні вынікаў афіцыйнага візіту ў Малдову Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў распавёў журналістам пра высокую інтэнсіўнасць двухбаковых кантактаў у гуманітарнай сферы. Чарговым крокам у гэтым напрамку стала адкрыццё Цэнтра беларускай культуры ў Кішынёве. У наступным годзе плануецца правесці Дні культуры Малдовы ў Беларусі і ўзвесці помнік беларускаму кнігадрукару Францыску Скарыну ў Кішынёве.

✔ Міністэрства інфармацыі Беларусі атрымала ў кіраванне долі ў «Бі Эй Інтэрнэшнл», «Рускім Радыё» і «Космас ТБ Медыя». Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў ад 30 верасня 2016 года.

✔ Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў павіншаваў работнікаў культуры з нагоды прафесійнага свята. «Дзякуючы вашай творчасці і паўсядзённай працы ў краіне паспяхова ажыццяўляецца культурная палітыка, захоўваюцца і прымнажаюцца духоўныя здабыткі нашага грамадства, — адзначана ў віншаванні. — Вы забяспечваеце пераемнасць духоўнага досведу нашага народа, даступнасць унікальнай спадчыны продкаў».

✔ Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец прызнаны адным з пераможцаў Міжнароднага конкурсу «Нацыянальная літаратурная прэмія "Залатое пяро Русі-2016"» у намінацыі «Проза». Беларускі пісьменнік адзначаны рашэннем журы гэтага прэстыжнага конкурсу за высокую грамадзянскую пазіцыю твораў. Цырымонія ўзнагароджвання адбудзецца 28 кастрычніка ў Маскве.

✔ Цэнтр беларускай мовы і культуры адкрыўся ў Нацыянальным універсітэце сучасных моў Пакістана. Паводле міністра адукацыі Беларусі Міхаіла Жураўкова, адным з напрамкаў дзейнасці стануць падрыхтоўчыя курсы па вывучэнні беларускай і рускай моў. У стварэнні цэнтра ўдзельнічала вялікая колькасць студэнтаў, гатовых знаёміцца з нашай мовай. Сюды будуць прыязджаць выкладчыкі з беларускіх ВНУ, якія распавядуць не толькі пра набыццё канкрэтных спецыяльнасцей, але і пра нашу краіну ўвогуле.

✔ Маладзёжны саюз Германіі праяўляе зацікаўленасць у рэалізацыі сумесных з Беларуссю праектаў у журналістыцы і ІТ-сферы. Паводле Юнеса Уакаса, кіраўніка дэлегацыі саюза, якая наведвае Мінск, мэта візіту — азнаямленне з краінай, яе развіццём і патэнцыялам. Прычым вялікі інтарэс у Маладзёжнага саюза Германіі выклікаюць праекты ў галіне масмедыя і інфармацыйных тэхналогій, дзе двухбаковае супрацоўніцтва можа развівацца найбольш эфектыўна. Найперш узаемадзеянне паміж нямецкімі і беларускімі журналістамі, інавацыі ў галіне інфармацыйных тэхналогій.

✔ Мірскі замак набыў унікальную калекцыю партрэтаў князёў Радзівілаў, якая налічвае 15 партрэтаў XIX і тры — XVIII стагоддзяў. Каштоўнасць калекцыі яшчэ і ў тым, што партрэты маюць непасрэднае дачыненне да ўладальнікаў Мірскага замка. У Партрэтнай зале прадстаўлена частка калекцыі — 12 работ. Астатнія захоўваюцца ў запасніках музея. Некаторыя маюць патрэбу ў рэстаўрацыі, адносна якой ужо вядуцца перамовы.

# …А свята падзяліць з усімі

Дзень работнікаў культуры — свята ўнікальнае: яно фактычна для ўсіх, бо кожны так ці інакш сутыкаецца з працай прадстаўнікоў гэтай сферы — у бібліятэках ці тэатрах, кіназалах ці музеях, выставачных залах ці дамах культуры… І гэта так звычайна, што нават у той самы адзін дзень у кастрычніку яны працуюць — таму што работнікі той сферы, для якой фактычна няма выхадных.

Сёння работнікаў культуры павіншуюць з надыходзячым святам у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры Рэспублікі Беларусь. У Год культуры ўзяць удзел ва ўрачыстасцях запрошаныя намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Н. І. Качанава, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І. І. Бузоўскі.

Сістэма культуры ў Беларусі на цяперашні момант налічвае 6 691 установу культуры, сярод іх 2 716 клубных установаў (з іх 2 296 у сельскай мясцовасці). У дзяржаўных клубных установах галіны культуры працуе 1 756 «народных» і «ўзорных», 64 «заслужаныя» аматарскія калектывы мастацкай творчасці. Галоўнае багацце гэтай сферы — людзі. У галіне культуры працуе 62 946 чалавек (з улікам рабочых прафесій), з іх 48 822 маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падрыхтоўку кадраў забяспечваюць 3 установы вышэйшай адукацыі, у якіх навучаецца 6 668 студэнтаў (з іх на дзённым аддзяленні — 3 996 студэнтаў, на завочным — 2 672 чалавекі), а таксама 21 установа сярэдняй спецыяльнай адукацыі, дзе займаюцца 5 104 навучэнцаў (з іх на дзённым — 4 803 чалавекі і на завочным — 301). Акрамя таго, ёсць 5 навуковых арганізацый у сферы культуры. Але ўсіх, хто датычны да стварэння культуры нашай краіны, палічыць немагчыма: гэта ўсе, хто стварае і дзеліцца вынікамі сваёй творчасці з іншымі. У тым ліку нашы чытачы, з якімі кожны дзень як свята.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Фестываль дома

Кожны інтэрнэт-карыстальнік мае магчымасць пазнаёміцца з адметнымі беларускімі дакументальнымі стужкамі апошніх трох гадоў, у якіх за плячыма вядучыя кінафестывалі Еўропы і краін СНД.

Анлайн-фестываль беларускага дакументальнага кіно *BELARUSDOCS* пройдзе з 4 па 10 кастрычніка. Гледачы ўбачаць стужкі як дзяржаўнай Студыі дакументальнага кіно «Летапіс», так і работы незалежных аўтараў. *BELARUSDOCS* закліканы папулярызаваць нацыянальнае неігравое кіно сярод беларусаў і справакаваць дыялог паміж творцамі і гледачамі, кажа каардынатар фестывалю Алесь Лапо: «Гэта свайго роду эксперымент: спроба засвоіць новы канал трансляцыі фестывальнага кіно. Цяжка меркаваць, наколькі запатрабаваным у інтэрнэт-аўдыторыі будзе такі фармат, але ён значна пашырае межы распаўсюджвання белдокіно, якое фактычна не дэманструецца ў рэгіёнах. Ды і ў Мінску на цэлы год мы маем толькі адзін фестываль, дзе можам убачыць дакументальныя фільмы, — для Беларусі, у якой у дакументалках ужо ёсць свае традыцыі, гэтага мала».

Кожны дзень на пляцоўцы *afisha.tut.by* будзе з'яўляцца новае кіно, даступнае да прагляду на працягу адных сутак. Глядач зможа паўплываць на адзнаку стужкі і пакінуць сваё меркаванне пра фільм. Адкрые *BELARUSDOCS* фільм «Алмаз» беларускага кінадакументаліста Віктара Аслюка пра адзінага жыхара вострава на Ладажскім возеры і яго каня Алмаза, на наступны дзень — «Скрыжаванне» Настассі Мірашнічэнка пра бяздомнага гомельскага мастака. Стужка Юрыя Цімафеева «Дудар» — пра майстра, які вырабляе пастуховыя дуды, а «Мяжа Нарвілішак» Дзмітрыя Махамета распавядае пра беларуска-літоўскае памежжа. Кіно «Не адзін» Вольгі Дашук пра мастака-самавучку Віктара Залаціліна, а «Пасха Хрыстова» Дар'і Юркевіч — пра духоўныя каштоўнасці ў жыцці сучаснага чалавека. Апошнім фільмам фестывалю стануць «Госці» Андрэя Куцілы пра заснавальніка незвычайнага прытулка Аляксея Шчадрова і яго гісторыю.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Паміж цікавым і карысным



*Абласны мастацкі музей імя П. Масленікава атрымаў першую ўзнагароду за сваю прэзентацыю.*

Трэці нацыянальны форум «Музеі Беларусі», які прайшоў у Магілёве пад знакам «Музей у новай крэатыўнай эканоміцы», сабраў 120 дзяржаўных, ведамасных, школьных музеяў і кампаній, якія працуюць у музейным бізнесе.

Перад музейнымі ўстановамі краіны стаяла задача паказаць усё самае лепшае і наватарскае, што адбылося ў іх жыцці за апошнія два гады. На конкурс было пададзена 109 заявак са 120 праектамі. Першыя дыпломы «За лепшае прадстаўленне музея на экспазіцыі форуму» атрымалі Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П. Масленікава і Мінскі абласны краязнаўчы музей. Музей-запаведнік «Нясвіж» і палацава-паркавы ансамбль у Гомелі былі адзначаны за лепшыя агульна адукацыйныя праграмы. Беларускі музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Віцебскі музей Марка Шагала перамаглі ў намінацыі «За лепшае музейнае выданне». За лепшы музейны праект першую прэмію атрымалі Нацыянальны мастацкі музей і Дзяржаўны музей ваеннай гісторыі Беларусі. Нацыянальны мастацкі музей таксама стаў уладальнікам першай прэміі за навацыю ў музейнай дзейнасці.

— Такія форумы неабходныя для таго, каб сустрэцца, прыглядзецца да калег з іншых музеяў, натхніцца новымі ідэямі, — падкрэсліла важнасць падзеі старшыня журы, генеральны дырэктар Траццякоўскай галерэі Зельфіра Трагулава. — Я ўпэўненая, што нават у самым маленькім музеі ёсць рэчы, якім трэба павучыцца вялікім музеям. Такія форумы праводзяцца для паднятія духу крэатыўнасці ў музейных суполках. У Беларусі сёння ідзе актыўная праца над аднаўленнем гістарычнай памяці. Вельмі важна дастукацца да сённяшняга гледача, прыкласці намаганні, каб ён прыйшоў у музей. І рабіць гэта трэба, не апускаючыся да банальнага вульгарнага папулізму. З дапамогай таго, што людзям зразумела і цікава.

**Нэлі ЗІГУЛЯ**

## У пісьменніцкім асяродку

# Лёсы, дарогі, шляхі…

Госцем сталічнай публічнай бібліятэкі № 5 у чарговы раз стала пісьменніца, намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Наталія Касцючэнка. Наталія Мікалаеўна — празаік-філосаф. Эсэ напоўнены элегічным роздумам пра жыццё і яго сэнс, пра ролі розных людзей у яе лёсе. Гэтым разам пісьменніца прэзентавала публіцы — студэнтам Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта і навучэнцам Мінскага дзяржаўнага архітэктурна-будаўнічага каледжа — сваю новую кнігу «Час жніва і час пакаяння». На думку аўтаркі, праўда жыцця куды багацейшая за фантазію. Дзеля чаго жыве чалавек? Якое ў яго прызначэнне? І што такое прызначэнне? Гэтыя пытанні хвалююць, як высветлілася падчас сустрэчы, не толькі пісьменніцу…

Новы, другі, сезон адкрыў Мінскі гарадскі тэатр паэзіі. Галоўнай гераіняй новай імпрэзы стала паэтэса Аліна Легастаева, якая сёлета адзначыла юбілей.

Жыццё Аліны Легастаевай — доўгая і пакручастая дарога. Да паэзіі звярнулася, ужо маючы за плячыма вялікі жыццёвы досвед.

— Паэзію Аліны Легастаевай адкрыў для сябе не так даўно, — распавёў падчас імпрэзы першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў. — Але адразу ўражвае, што вершы Аліны Антонаўны не проста лірычныя, а лірыка-філасофскія.

Генадзь Пашкоў уручыў юбілярцы медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». А з рук дырэктара Мінскага гарадскога тэатра паэзіі, старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова паэтэса ўганараваная падзякай старшыні Мінгарвыканкама Андрэя Шораца.

Падчас імпрэзы Аліна Антонаўна атрымала багата музычных падарункаў ад кампазітараў Алега Чыркуна і Аліны Безенсон, барда Алены Маслоўскай… Яе вершы яскрава прадэкламавала майстар мастацкага чытання Валянціна Цітовіч. Але найбольш пранікнёна паэзія гучала з вуснаў самой аўтаркі.

Скарбонку музея «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці» горада над Бугам папоўніла творчая вечарына вядомага берасцейскага пісьменніка Анатоля Брытуна, які чвэрць стагоддзя аддаў службе на мытні.

Анатоль Брытун першым з пісьменнікаў апявае Белавежскую пушчу не песнямі і вершамі, а… прыгодніцкімі раманамі! Пакуль у яго творчым актыве дзве кнігі: «Пах мускусу» і «Сяліба». Іх рэдактар, дацэнт філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Уладзімір Сенькавец, распавёў: аўтар хоць і пачаў пісаць у сталым узросце, аднак даволі хутка знайшоў сваю нішу ў літаратуры. Першы свой раман «Пах мускусу» Анатоль Брытун напісаў па-руску, але неўзабаве пераклаў на беларускую і пасля гэтага пачаў пісаць толькі па-беларуску.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# МЕСЦА, ДЗЕ ЯДНАЮЦЦА ЭПОХІ



Фота Кастуся Дробава.

*Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка прэзентуе выстаўку, прысвечаную 125-годдзю Максіма Багдановіча.*

Архіў-музей бярэ ўдзел у стварэнні розных навуковых і біяграфічных зборнікаў. Так, у апошні час выйшлі першы ў гісторыі беларускага літаратуразнаўства збор твораў Адама Бабарэкі ў двух тамах, выбраныя творы Зоські Верас, кніга невядомых раней твораў беларускага рускамоўнага пісьменніка Якуба Брайцава, зборнік матэрыялаў, дакументаў і артыкулаў аб творчасці Анатоля Багатырова, зборнік твораў беларускіх кампазітараў XIX — XX стагоддзяў.

Штогод, пачынаючы з 2003 года, на пачатку кастрычніка БДАМЛМ ладзіць навуковую канферэнцыю «Архіўныя чытанні», прымеркаваную да Дня архівіста. Чытанні аб'ядноўваюць даследчыкаў і архівістаў з самымі рознымі навуковымі зацікаўленнямі. Сёлетняя канферэнцыя, якая праводзілася 4 кастрычніка, была прысвечана 125-годдзю Максіма Багдановіча, Аркадзя Смоліча і Івана Цвікевіча. Падчас чытанняў былі агучаныя і важкія літаратуразнаўчыя распрацоўкі, і цікавыя архіўныя знаходкі. Так, звесткі з гісторыі выдання зборніка М. Багдановіча «Вянок», прадстаўленыя дырэктарам архіва-музея Г. Запартыка, дазваляюць па-новаму асэнсаваць літаратурны працэс пачатку XX стагоддзя. Акрамя таго, удзельнікі канферэнцыі мелі магчымасць сустрэцца з сынам класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулі Яфімам Плаўнікам, які падзяліўся сямейнымі ўспамінамі з часу побыту М. Багдановіча на кватэры сям'і Плаўнікаў.

БДАМЛМ мае ў сваёй гісторыі некалькі мінскіх адрасоў: у 1965 — 1969 гг. — вуліца Казлова, 26; у 1969 — 1991 гг. — і вуліца Ракаўская, 4 (Петрапаўлаўская царква). Сёння архіў месціцца на маляўнічай вуліцы Кірылы і Мяфодзія ў будынку былога касцёла бернардынцаў. Магчыма, «гісторыя адрасоў» на гэтым не скончыцца. Аднак, незалежна ад месца знаходжання, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва заўсёды будзе надзейным домам для беларускай культурнай спадчыны.

**Жанна КАПУСТА**

# Вярнуцца на імгненне ў лета

## дазваляюць пейзажы Браслаўшчыны

Прыгажосць Браслаўшчыны абуджае натхнёныя думкі, цеплыню ў душы і жаданне вярнуцца на «блакітны» кавалачак зямлі яшчэ неаднойчы. І паколькі пачалася халодная восень, але так хочацца крышачку цяпла і мяккага водару прыроды, Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» вырашыла вярнуць у лета праз фотапраект «Браслаўскія зоры».

Выстаўка багатая на колеры, тут сустракаюцца сіне-ружовыя вечары, туманныя азёры, залітыя сонейкам лясы і бязмежнае блакітнае неба з маленькімі, лёгкімі, нібы бавоўна, хмарамі. Усе гэтыя з'явы прыроды былі злоўленыя фотамастакамі з Браслава Юрыем Акудовічам, Дзмітрыем Бельскім, Антонам Варэнікам, Таццянай Ермалаевай, Юрасём Жарко, Янай Красікавай, Галінай Ламака, Альфрэдам Мікусам і іншымі. За мэту аўтары ўзялі не толькі адлюстраванне прыроднай прыгажосці — яны імкнуцца звярнуць увагу на прыроду як на вялікую каштоўнасць беларускага народа. Аўтары праекта «Браслаўскія зоры» заклікаюць берагчы прыроду і атрымліваць асалоду ад яе цудаў.

Акрамя фотаздымкаў, на выстаўцы экспануецца шэраг габеленаў браслаўскай мастачкі па тэкстылі Наталлі Парахневіч. Творчым куратарам выстаўкі выступае Юрась Жарко — фотамастак, што на працягу многіх гадоў займаецца правядзеннем і арганізацыяй культурных, традыцыйных праграм, распрацоўвае спецыяльныя турыстычныя маршруты па Браслаўшчыне. Таму падчас прадумвання канцэпцыі фотапраекта, акрамя



*Работа Віталя Раковіча.*

пейзажных здымкаў, ён вырашыў прадставіць фрагменты са святочных і несвяточных дзён мясцовых жыхароў.

**Вікторыя АСКЕРА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**9 кастрычніка** — на канцэрт духоўнай паэзіі і музыкі ў межах дзён праваслаўнай культуры ў Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19). Пачатак а 17-й гадзіне.

**10 кастрычніка** — у студыю юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Кіраўнік — паэтэса Іна Фралова. Пачатак а 14-й гадзіне.

**11 кастрычніка** — на свята дзіцячай кнігі ў СШ № 10 (зав. Бранявы, 15) з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова. Пачатак у 10.30.

**12 кастрычніка** — на прэзентацыю кнігі прозы пісьменніцы Маргарыты Латышкевіч у бібліятэку філалагічнага факультэта БДУ (вул. К. Маркса, 31, 4-ы паверх). Пачатак а 17-й гадзіне.

**12 кастрычніка** — на юбілейны творчы вечар паэта-песенніка Івана Цітаўца. Імпрэза з удзелам вядомых салістаў і музычных калектываў адбудзецца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 18-й гадзіне.

**13 кастрычніка** — у літаратурную студыю «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Кіраўнік — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 15-й гадзіне.

**13 кастрычніка** — у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на прэзентацыю кнігі санкт-пецярбургскай пісьменніцы Алены Маліноўскіх «Синдром большого города». Пачатак у 15.30.

**14 кастрычніка** — на творчую імпрэзу «Здаровая сям'я — здаровая нацыя» з удзелам пісьменніка Віктара Шніпа і маладых паэтаў у Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт (актавая зала галоўнага корпуса). Пачатак а 12-й гадзіне.

**14 кастрычніка** — на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго, прысвечаную Дню маці, у СШ № 43 (вул. Галадзеда, 4). Пачатак а 17-й гадзіне.

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 кастрычніка** — на адкрыццё выстаўкі «Мітрапаліт Антоній Суражскі. Жыццё для мяне — Хрыстос» у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (г. Гомель, вул. Савецкая, 26). Пачатак у 17.30.

**11 кастрычніка** — на вечарыну «Кардынаты сяброўства Вольгі Барысавай» у літаратурнай гасцёўні маладых аўтараў «31 мерыдыян» у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (г. Гомель, вул. Савецкая, 26). Пачатак а 16-й гадзіне.

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**14 кастрычніка** — на вечарыну «Цалую рукі твае…», прысвечаную Дню маці, з удзелам полацкіх паэтаў — сяброў народнага літаратурнага аб'яднання «Наддзвіннe» (Полацкі ЦРНК, вул. Ніжне-Пакроўская, 27). Пачатак у 17.30.

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**9 кастрычніка** — на літаратурную сустрэчу з гродзенскімі творцамі Людмілай Кебіч і Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева (Мінская вобл., г. Барысаў, вул. Чапаева, 3). Пачатак а 13-й гадзіне.

**11 кастрычніка** — на літаратурную сустрэчу «Увага, паэзія!» з гродзенскімі паэтамі Пятром Сямінскім і Дзмітрыем Радзівончыкам у гарадскую гімназію № 5 (г. Гродна, вул. Дамброўскага, 17). Пачатак а 14-й гадзіне.

## Дайджэст

• У Маскве працягваецца пошук месца для ўсталявання помніка Міхаілу Булгакаву. Жыхары ваколіц Патрыяршых прудоў выказаліся катэгарычна супраць скульптурнай кампазіцыі па суседстве. Такія паводзіны масквічоў выклікаюць цікавасць у сацыёлагаў і псіхолагаў, а сцвярджэнне, што прысутнасць у кампазіцыі Іешуа — гэта д'ябальшчына, наводзіць на думку, што з раманам «Майстар і Маргарыта» нязгодныя папросту не знаёмыя. Пакуль у якасці альтэрнатыўнай лакацыі для помніка разглядаецца Вялікая Пірагоўская вуліца, дзе Булгакаў таксама жыў і працаваў. Між тым дэпутаты розных муніцыпальных сходаў Масквы таксама не маюць адзінага меркавання наконт месца ўсталявання помніка.

• Пошта Расіі праводзіць маштабную акцыю па папулярызацыі чытання. Акцыя так і называецца — «Чытаем з поштай». У шматлікіх паштовых аддзяленнях Расіі арганізаваны продаж перыядычных выданняў і кніг. Тых, хто возьме ўдзел у акцыі, чакае бонус: альбо яшчэ адна кніга ў падарунак, альбо біруулька. Для гэтага трэба набыць прэсу на суму больш за сто рублёў альбо кніг на пяцьсот рублёў. Удзел у акцыі бяруць не толькі федэральныя, але і рэгіянальныя выдавецтвы, а таксама структуры, якія спецыялізуюцца на распаўсюджванні газет і часопісаў. Пры гэтым важна, што кошты на прадукцыю будуць меншымі, чым у кнігарнях і газетных шапіках. Вясной гэтая ж акцыя праводзілася ў шасці аддзяленнях пошты і паказала добры вынік: продаж павысіўся ў сярэднім на 35%.

• Выхад пятага рамана Дэна Браўна пра прафесара Роберта Лэнгдана анансаваны адным з брытанскіх выдавецтваў. Новы раман абяцае сумесь гісторыі, рэлігіі, містыкі і іншых звыклых для пісьменніка тэм. Выдаўцы не сумняюцца ў поспеху новага твора Браўна, назва якога ў рабочай версіі перакладаецца як «Паходжанне». Папярэднія раманы Браўна маюць па ўсім свеце велізарныя тыражы — больш як дзвесце мільёнаў асобнікаў. Да таго ж, амаль усе раманы пра прафесара Лэнгдана былі экранізаваныя. Чарговая прэм'ера — экранізацыя «Інферна» — мусіць адбыцца ў кастрычніку гэтага года.

• Папулярны ў Іарданіі пісьменнік Нахід Хатар быў застрэлены на парозе суда, у якім мусіў выслухаць абвінавачванні ў абразе іслама. Вінай усяму карыкатура, размешчаная Хатарам на старонцы ў сацсетках. Многія расцанілі яе як здзек з рэлігіі і распальванне міжнацыянальнай варажнечы. Пісьменніка не арыштавалі адразу, а выпусцілі пад заклад, хоць Хатар сцвярджаў, што на карыкатуры намаляваны не проста мусульманін, а тэрарыст адной з забароненых групіровак. У выніку пісьменнік быў забіты: невядомы тройчы стрэліў яму ў галаву. Забойца затрыманы.

• Публічная бібліятэка Нью-Ёрка нядаўна прыняла ў дар ахвяраванне, якое, па рашэнні адміністрацыі, пайшло на канструяванне ўласнай кніжнай «чыгункі»: праз усе памяшканні будынка, а гэта адзінаццаць узроўняў, была праведзеная сетка аўтаматычнай сістэмы транспартавання кніг. У сістэме задзейнічаныя 24 грузавыя вазкі, кожны з якіх разлічаны на аб'ём кніг меншы за 15 кг. Вазок праходзіць шлях да 300 метраў за адну паездку. Такая работа дазваляе павысіць хуткасць здачы і атрымання неабходнай навядвальнікам літаратуры, пры гэтым кнігі падвозяць наўпрост да чытацкага стала, не парушаючы бібліятэчнай цішыні.

# НЕ ТОЛЬКІ ЗАХАВАЦЬ

## Дакументы беларускага замежжа як сведкі гісторыі

**Архівы беларусаў замежжа маюць вялікае значэнне для камплектавання фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Найбольш актыўна дакументы дзеячаў культуры, навукі і мастацтва, якія воляй лёсу апынуліся за мяжой, сталі паступаць з сярэдзіны 1990-х гадоў, і працэс не спыняецца да сёння. На вялікі жаль, з розных прычын гэтыя фонды часта няпоўныя. Але спадзяёмся на іх папаўненне: патрэбна шмат часу, каб сабраць гэтае багацце па ўсім свеце.**

Фонды замежных беларусаў сталі трапляць у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва яшчэ ў савецкі час — на пачатку 1980-х гг. Першыя дакументы прыходзілі з Польшчы ад Сакрата Яновіча. Ён меў характар архівіста, здольнасць ацаніць дакумент як гістарычную крыніцу, уключыць яе ў пэўную сістэму. Таму яго фонд у нас сёння дастаткова багаты. Нягледзячы на тое, што спачатку пісьменнік перадаваў некаторыя свае дакументы ў лонданскую Скарынаўскую бібліятэку і ў сховішчы бібліятэк Польшчы, у пэўны час усё ж прыняў рашэнне перадаваць усё, што мае, у БДАМЛМ. Ён казаў: «Каб пасля не шукаць свайго ў чужых», бо разумеў, што самы актыўны даследчык беларускай літаратуры будзе жыць тут, у Беларусі. Сапраўды, у дзейнасці архіва ёсць адзін аспект, які часта не ўлічваецца: важна не толькі захаваць, важна яшчэ служыць даследчыку, быць часткай нацыянальнай гісторыі і культуры.

Ёсць у сховішчах архіва-музея дакументы іншых дзеячаў з Польшчы — Базыля Белаказовіча, Антонія Міранoвіча. Варта ўзгадаць таксама і пра дакументы, прывезеныя з Літвы, Латвіі, Расіі, якія ў савецкі час непрынята было называць замежжам. Напрыклад, унікальныя зборы Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія перш за ўсё былі створаны на аснове дакументаў, прывезеных з маскоўскіх кватэр перакладчыкаў П. Сямыніна і С. Гарадзецкага.

Варта згадаць і фонд Лукаша Бэндэ, архіў якога неўзабаве пасля яго смерці ў 1961 г. быў перавезены з Санкт-Пецярбурга ў Мінск. Старэйшыя супрацоўнікі памятаюць, што гэта была своеасаблівая «аптымістычная катастрофа» — настолькі фонд быў вялікі.

З прывезеных з Расіі можна згадаць яшчэ архівы перакладчыка Паўла Кабзарэўскага з Санкт-Пецярбурга, Язэпа Дылы з Саратава. У Пяцігорску жыў паэт з трагічным лёсам Вісарыён Гарбук, якому здароўе не дазволіла жыць на беларускай зямлі. Удава пісьменніка перадала яго архіў у БДАМЛМ. З Яраслаўля трапіў да нас архіў і музейны фонд сям'і Багдановіч, які ўдалося сабраць у першую чаргу дзякуючы Алесю Бачылу. З Якуцка нашмат пазней, ужо ў 1990-я гады, асабістае знаёмства з Алесем Баркоўскім паспрыяла паступленню дакументаў паэта Івана Ласкова.

З Новасібірска, напрыклад, поштаю пераслаў нам дакументы сын Міколы Каспяровіча — Аляксандр Каспяровіч. У Самаркандзе праз, светлай памяці, Віталя Скалабана мы знайшлі сям'ю сябра Каруся Каганца і атрымалі ўнікальны падарунак — дзве рэдкія работы мастака і пісьменніка.

За апошняе дваццацігоддзе ў архіў-музей паступілі дакументы, выданні, музейныя рэліквіі з Беларускага інстытута навукі і мастацтва, ад Вітаўта Кіпеля і Янкі Запрудніка, якія, акрамя сваіх уласных матэрыялаў, перадалі часткі асабістых архіваў Наталлі Арсенневай, Юркі Віцьбіча, Міколы Куліковіча-Шчаглова, Антона Адамовіча і многіх іншых. Значнае месца займаюць фонды Алеся Алехніка (Аўстралія), Міхася Швэдзюка (Вялікабрытанія), Масея Сяднёва (ЗША), Данчыка (Багдана Андрусішына, ЗША) ды інш. Кожны з гэтых фондаў утрымлівае дакументы як пра жыццё і дзейнасць сваіх стваральнікаў, так і пра гісторыю беларускага замежжа.

Але самым першым фондам, які паступіў цэласным, быў асабісты архіў аднаго з самых вядомых прадстаўнікоў беларускага замежжа — Міхася Забэйды-Суміцкага. Гісторыя паступлення ў Беларусь асабістага архіва спевака налічвае больш за дваццаць гадоў. Пра першыя захады Міхася Забэйды перадаць сваю спадчыну на радзіму сведчыць ліст загадчыка аддзела камплектавання Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў СССР да яго ад 10 чэрвеня 1964 г.:

*«ЧССР, Прага 2-Винограда Польска 12 тов. М. Забейде-Сумицкому.*



Дакументы з архіўных фондаў беларусаў замежжа.

*Уважаемый товарищ Забейда, по сообщению Архивного управления Белорусской ССР во время своих гастролей в Минске в 1963 году Вы выразили желание передать свой личный архив Центральному государственному архиву литературы и искусства Белоруссии. Учитывая это, мы были бы признательны за присылку нам подробной описи материалов архива и сообщение условий, на которых Вы согласны передать его в Государственный архив СССР. С уважением начальник отдела Коленкина»* (БДАМЛМ. Ф. 293. Воп. 1. Адз. захавання 356. Арк. 13).

Ці адказаў Міхась Забэйда на ліст чыноўніцы Галоўархіва СССР, цяпер сказаць цяжка. Але, мяркую, што тым самым было надоўга стрымана памкненне спевака перадаць свой архіў: па-першае яго магла бянтэжыць прапанова скласці падрабязны вопіс, па-другое, просьба сыходзіла з Масквы, а не ад тых, каму ён выказаў сваё жаданне патрыёта-беларуса. Відавочна, што беларусы былі пазбаўленыя права вырашаць гэта пытанне самастойна, нават наўпрост ліставацца з уласнікам архіва за мяжой.

Тым не менш Міхася Забэйду не пакідала думка перадаць сваю архіўную спадчыну на радзіму. Можна сказаць, што ў нейкім сэнсе для яго гэта было раўназначным фізічнаму вяртанню. І ён прыняў адзінае правільнае на той час рашэнне: 22 лістапада 1965 г. склаў завяшчанне, у якім адным са спадчыннікаў пазначыў *«Дзяржаўны беларускі мастацкі архіў»* (так у афіцыйным пасведчанні на чэшскай мове), што атрымліваў у спадчыну *«мастацкія прадметы-ноты, кружэлкі, магнітафонныя стужкі, кнігі, карэспандэнцыю, магнітафон, піяніна»* (БДАМЛМ. Фонд 293. Воп. 1. Адз. захавання 359. Арк. 4).

Забэйда-Суміцкі памёр 21 снежня 1981 г. Неўзабаве інюркалегія ЧССР пачала росшук пазначанага ў завяшчанні архіва. У сувязі з тым, што назва была пададзеная не зусім дакладна, узніклі пэўныя праблемы, і першы ліст з Прагі ад 18 лютага 1982 г. адрасат проста не атрымаў. Наступны ліст прадстаўніком інюркалегіі д-рам Бартавай быў напісаны 2 ліпеня таго ж года. У выніку афармленне правоў наследавання заняло больш за паўтара года, а праца па арганізацыі дастаўкі архіўнай спадчыны Забэйды-Суміцкага ў Беларусь была завершаная толькі ў чэрвені 1985 г.

Зразумела, што з'яўленне ў архіве-музеі асабістага архіва Міхася Забэйды прыцягнула ўвагу многіх даследчыкаў. Але першым, хто ўзяў на сябе абавязак «вывучыць» змест спадчыны спевака, быў Аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Справа даручалася *«товарищу Н. С. Сташкевичу»* і на падставе пасведчання, выдадзенага яму ЦК КПБ 1 чэрвеня 1987 г., ён прыступіў да працы. Заўважу, што адбылося гэта толькі праз два гады пасля атрымання архіва. Гэта азначае, што спецыялісты архіва-музея не маглі распачаць працу навукова-тэхнічнай апрацоўкі дакументаў раней, чым пачне і завершыць сваё «вывучэнне» аддзел прапаганды.

У красавіку 1992 г. была пастаўлена апошняя кропка ў справе апрацоўкі архіўнай спадчыны Міхася Забэйды-Суміцкага. І хаця праца так моцна расцягнулася ў часе, трэба прызнаць, што якраз гэта выратавала фонд ад складання двух вопісаў, справы ў адным з якіх былі б з пазнакай «сакрэтна» і закрытыя для шырокага доступу. Калі апрацоўваўся архіў спевака, мы жылі ўжо ў іншай краіне, і ранейшыя абавязковыя правілы страцілі сваю актуальнасць.

Архіўны фонд Міхася Забэйды-Суміцкага налічвае 452 адзінкі захоўвання. Гэта творчыя дакументы, матэрыялы канцэртнага рэпертуару, фотаздымкі, значная колькасць асабістых дакументаў, якія дазваляюць удакладніць і дэталізаваць многія факты біяграфіі спевака. Асаблівае месца займаюць беларускія народныя песні і песні беларускіх кампазітараў на словы Я. Купалы, М. Багдановіча, А. Русака, М. Танка.

Унікальная частка архіва спевака — ліставанне з дзеячамі мастацтва, літаратуры, культуры многіх краінаў свету. Яму пісалі з Англіі, Балгарыі, Венгрыі, Нямеччыны, Італіі, Канады, Югаславіі. Але найбольшую частку эпісталярыя складаюць лісты з Беларусі і дзечаў беларускай культуры за яе межамі. Захаваліся лісты С. Александровіча, А. Бажко, Зоські Верас, Н. Гілевіча, С. Грахоўскага, У. Караткевіча, А. Карпюка, А. Лойкі, С. Новіка-Пеюна, С. Панізніка, Я. Саламевіча, П. Сергіевіча, М. Танка, Р. Шырмы, Я. Янішчыц ды многіх іншых.

На вялікі жаль, уключаны ў спіс спадчыны раяль «Шолзэ» не дазволілі вывезці.

Наступным паводле часу паступленнем у БДАМЛМ быў архіўны фонд пісьменніка Масея Сяднёва. Першы яго візіт на радзіму пасля амаль пяцідзесяцігадовага перапынку адбыўся ў 1990 г. Далей як пісьменнік, так і архіў-музей выкарыстоўвалі любую нагоду, каб перадаць ці пераслаць матэрыялы. Наступнае падарожжа ў Беларусь дзеяч ажыццявіў у верасні 1992 г. Першае спатканне з калектывам БДАМЛМ і першае паступленне дакументаў непасрэдна з рук іх гаспадара адбылося 14 верасня. Гэта былі рукапісы Масея Сяднёва: зборнік вершаў «Ад сына твайго, Беларусь», паэмы «Вечнае выгнаньне», «Забраны Менск», «Цень Янкі Купалы», «Паэма пра бацькаўшчыну», вершы розных гадоў, публіцыстычныя творы, успаміны, а таксама пераклады ягоных твораў на нямецкую, польскую, украінскую мовы. Самую значную частку дадзенага вопісу складае эпісталярый.

Другі вопіс фонду Масея Сяднёва фарміраваўся на працягу 1995 — 2002 гг. У лістападзе 1995 г. пісьменнік выслаў на адрас БДАМЛМ рукапіс кнігі «На споведзі перад Айчынай» і адначасова ліст, у якім тлумачыў: «*…сваю новую кнігу, якую вось і высылаю Вам і якую прашу прыняць у Ваш архіў-музей… Ні ў якае з нашых выдавецтваў гэтую кнігу я не пасылаў*». Далей дакументы ад Масея Сяднёва паступалі менавіта такім шляхам. Толькі ў 1997 г. мы атрымалі ад пісьменніка чатыры пакунку дакументаў. Апошняй ягонай весткай да аўтара гэтага артыкула была віншавальная паштоўка з Новым 2001 годам, а апошняе паступленне ў фонд адбылося ў 2002-м: Святлана Сачанка перадала ў архіў-музей трыццаць дзевяць лістоў Масея Сяднёва да яе за 1992 — 2000 гг.

У маі 2014 г. пры архіве-музеі была створана навукова-творчая ініцыятыва «Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа», праца якога заключаецца не толькі ў выяўленні і навуковым апісанні беларускіх дакументаў у замежных архівах, музеях і бібліятэках, прыватных калекцыях, але таксама і ў папулярызацыі ведаў пра дзейнасць беларускіх арганізацый і выдатных асоб беларускага паходжання за мяжой у нашым грамадстве.

Станоўчы досвед фарміравання архіўных фондаў вядомых дзеячаў беларускага замежжа і факт стварэння згаданага цэнтра даюць падставы спадзявацца на актывізацыю супрацоўніцтва як з беларускімі арганізацыямі, так і з уладальнікамі асабістых архіўных збораў беларускага замежжа.

**Ганна ЗАПАРТЫКА,**
**дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва**

# Чалавек з «каметнай арбіты»

## Народны гісторык у масіўных акулярах Мікола Ермаловіч

Чалавек-легенда, маладзечанская знакамітасць, гарадскі «дзівак»… Ён нарадзіўся ў вёсцы Малыя Навасёлкі Мінскага павета (цяпер гэта Дзяржынскі раён Мінскай вобласці) у 1921 г., але ў 1950-х — 1990-х гг. жыў у горадзе Маладзечна, адкуль родам і я. Апошнія колькі гадоў свайго нязвыклага (на погляд звычайнага гарадскога абывацеля) жыцця, жыцця — як пралёт каметы! — Мікола Ермаловіч, атрымаўшы нарэшце прызнанне плёну самааддананай працы па старажытнай гісторыі Беларусі, жыў у Мінску.

Тут ён атрымаў кватэру, меў магчымасць больш працаваць у бібліятэках, найперш — у любімай нацыянальнай, а таксама сустракацца з шырокім колам чытачоў сваіх кніг і палемічных артыкулаў: у 1990-я, тыя першыя гады атрымання незалежнасці нашай краінай, загадкавай гісторыяй паўсталай Беларусі-Фенікса цікавіліся многія: ад вадзіцеля аўтобуса да цырульніцы... На жаль, вясной 2000 г. у Мінску, пераходзячы дарогу і ў выніку трагічнага сутыкнення з аўтамабілем, «народны гісторык», як яго, хто з усмешкай, хто з любоўю, называлі, быў збіты з ног (са сваёй «каметнай арбіты») і праз дзень памёр ад ран у сталічнай бальніцы.

Камета (у перакладзе з грэчаскай мовы — літаральна «доўгавалосы») — нябеснае цела, якое рухаецца не па круглай планетарнай арбіце, а па моцна выцягнутай у эліпс, удалечыні ад Сонца. Хоць і з'яўляюцца складнікамі Сонечнай сістэмы, яны маюць цвёрдую «галаву» і доўгі светлавы «хвост», які падаўжаецца па меры набліжэння да Сонца і можа быць да дзясяткаў мільёнаў кіламетраў... Чым не «астранамічны партрэт» нашага героя — Міколы Ермаловіча? А «сонцаў», або цэнтраў прыцягнення, у Сусвеце можа быць шмат. На ўсіх хопіць. Гэта проста Сусвет сонечнага сяйва!..

Пра яго гаварылі падчас навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Летапісец нашай славы: да 95-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча», якую сёлета праводзіла дзяржаўная ўстанова культуры «Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча». Сярод дакладчыкаў і выступоўцаў былі Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Мароз, Навум Гальпяровіч, Міхась Казлоўскі і іншыя шаноўныя госці і маладзечанцы.

Ермаловіч меў з маладосці вельмі дрэнны зрок (фізічна), але, падмацаваны пукатымі акулярамі, вельмі зоркага, пранілівым позіркам угледаўся ў цёмныя стагоддзі беларускай гісторыі (духоўна). Недзе нават інтуітыўна, угледаючыся ў геаграфічную карту сучаснай Беларусі, Беларускай ССР. Хадзіў па тратуарах і драўляных насцілах невялікіх вуліц 1960-х, шырокім крокам, крыху хістаючыся, як марак па палубе... Можа, нават крыху п'яны; але не ад алкаголю, а ад сваіх смелых ідэй, падазрэнняў, гіпотэз, азарэнняў! Гэткі Шэрлак Холмс мясцовага маштабу, пераапрануты ў гарадскога абывацеля ці іншага персанажа дзеля сваёй «дэдукцыйнай методы». Падобна было на тое, што ў яго зрэнках, надзейна схаваных за масіўнымі лінзамі акуляраў, надоўга заставаліся нібы «ўдрукаванымі» (адваротнымі: белымі літарамі!) такія тапанімічныя назвы як: *Літва* (вёска), *Літвінкі* (вёска), *Ліцвінавічы* (вёска), *Ліцвяны* (вёска) і іншыя... Такая была фантастычная акамадацыя Ермаловічавых вачэй — прыстасаванне ўзбуджальных тканак для бачання яркіх прадметаў. Хто глядзеў на сонца і пасля адводзіў вочы ўбок, доўга яшчэ, 5 ці 10 хвілін, «бачыць» чорны дыск між вейкамі. Ці на аголеную лямпачку напальвання — такі чорны графічны ўзор адбіваецца!.. Беларусь была для Ермаловіча такім Сонцам.

Мікола Ермаловіч, якога называюць летуценным гісторыкам-аматарам і філолагам, які зацікавіўся гісторыяй (гісторыяй Літвы; аднак не сучаснай яму Літоўскай ССР, а Літвы гістарычнай), значны перыяд жыцця жыў са мной у адным горадзе Маладзечна. Гэта былі 1950-я — 1970-я гг. Толькі я жыла на вуліцы Дзяржынскага, у двухпавярховым доме, пабудаваным, як казалі, «палоннымі немцамі». А Мікола Ермаловіч жыў у тыя самыя гады амаль непадалёку ад мяне — з іншага боку гарадскога парку, на горцы, праз дарогу ад знакамітага рынку з каменнымі «склепамі». Пра яго тады мала хто ведаў. З-за слабага зроку ў Вялікай Айчыннай вайне ён не ўдзельнічаў. Вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце (факультэт беларускай мовы і літаратуры), працаваў школьным настаўнікам у далёкай Мардоўскай АССР, а ў 1943 г. вярнуўся ў Беларусь. Працаваў у Віцебскай вобласці, у Дзяржынску. Але скончыў Мінскі педагагічны інстытут толькі ў 1947 г. і адразу стаў працаваць старшым выкладчыкам у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце.



*Фота Яўгена Пясецкага.*

Мікола Ермаловіч дае інтэрв'ю карэспандэнту Беларускага радыё падчас экспедыцыі «Дарога да святыняў», удзельнікам якой ён быў.

> **Мікола Ермаловіч:**
> *«Даследчык не можа дзяліць факты на тыя, якія яму падабаюцца, і тыя, якія яму не падабаюцца. Усе факты ён павінен даследаваць і ніводнага не адкідаць...»*

У сярэдзіне 1950-х М. І. Ермаловіч быў загадчыкам метадычнага кабінета Маладзечанскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Але значная страта зроку вымусіла яго рана пакінуць сталую працу і жыць з сям'ёй на невялікую пенсію. У сям'і працавала жонка (дарэчы, настаўніцай гісторыі), а пасля і дачка Алена. Жыць можна было, але вельмі «нестандартна», па-свойму. Вольны час падарыў яму вялікі свет і вялікія стагоддзі, вялікіх асоб і вялікія здагадкі. А таксама, як сказалі бы мы сёння, шмат віртуальных сяброў і знаёмых.

Юнай дзяўчынай я «віртуальна» пазнаёмілася з яго жытлом. Жыў ён тады ў тыповай двухпакаёвай кватэры, з прахадным пакоем, заваленым стосамі («егіпецкімі пірамідамі»!) кніг на прысунутым да сцяны стале, маленькай кухняй, цеснай вітальняй. Можна сказаць, што, як атачаны няўбачнымі шклянымі сценамі, у самым цэнтры кватэры, там, дзе месціўся гэты недатыкальны рабочы стол даследчыка, і быў яго ўласны «рабочы кабінет». І я яго такім убачыла аднойчы! У сярэдзіне 1970-х гг. з дачкой Ермаловіча Аленай мы нейкі нядоўгі час працавалі на Маладзечанскай фабрыцы мастацкіх вырабаў «Народная творчасць», сядзелі побач, выраблялі сувенірныя лялькі з ільну («Гусляр», «Жняя», «Паўлінка» і іншыя), і я, бывала, заходзіла да яе падчас нашых суботніх вечаровых прагулак па горадзе... Свой дзявочы пакойчык яна дзяліла з братам-інвалідам, які падчас майго візіту часта проста спаў за квяцістай заслонай («Ай! Не звяртай увагі!» — гаварыла сяброўка), як тайнае вялікае дзіця аднаго з вучоных у фільме «Салярыс» Андрэя Канчалоўскага паводле рамана польскага пісьменніка Станіслава Лема... Яна была на некалькі гадоў старэйшая за мяне. Цяжкасцей не баялася, часта гаварыла і жартавала па-беларуску (у адрозненні ад іншых работніц).

Тады я не ведала, што бацька маёй Алены — філолаг, і яшчэ які: Філолаг з вялікай літары! Праўда, я ніколі яго не бачыла, яго заўсёды не было ў кватэры падчас маіх легкадумных візітаў. Хутчэй за ўсё, ён зранку быў у Мінску, у бібліятэцы, найверагодней у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (а цяпер Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе я працую).

Крыху пазней, калі я закончыла філфак, мы з Аленай выпадкова сустрэліся, і я была запрошана на агледзіны і на гартанне фотаальбомаў у новую кватэру Ермаловічаў. Адразу кінуліся ў вочы важныя перамены: у яе легендарнага тады ўжо Бацькі (Бацькі ідэі несупадзення межаў сучаснай і гістарычнай Літвы, нават паводле тапанімічных назваў з коранем «Літв-» і іншых яго «філалагічных назіранняў») быў свой асобны пакой-кабінет.

Можна сказаць, што і мае лірычныя ўспаміны пра Міколу Ермаловіча — гэта таксама «філалагічныя назіранні». Калі ўпаўвока, калі ў два вокі, а калі «шырока закрытымі вачыма» (ад страху за яго жыццё, лёс і лёс яго кніг; за яго зрок, які, як навокал казалі і пісалі, усё больш і больш пагаршаецца, а аперацыя наўрад ці дапаможа...).

З канца 1980-х і па 2005 гг. я працавала ў аддзеле беларускай літаратуры ў Мінску, у найвялікшай кніжнай скарбніцы Беларусі. Сярод супрацоўнікаў у тагачасным аддзеле беларускай літаратуры, якім кіравала Л. М. Рабок, былі і пісьменніцы (напрыклад, захавальніца ведаў па «беларускай Атлантыдзе» Н. Б. Ватацы), і жонкі беларускіх пісьменнікаў (загадчыца сектара абслугоўвання чытачоў Р. Ф. Сіпакова), і жонкі беларускіх даследчыкаў («архівіст» В. У. Баханькова), і здагадлівыя з паўслова, практычныя жонкі вайскоўцаў (Л. І. Турбан), і нават дзіўны чарнявы бібліятэкар — аматар беларушчыны канца XIX — пачатку XX стст. (Д. М. Давідоўскі)... Міколу Ермаловіча ўсе вельмі спагадліва абслугоўвалі, дапамагалі, чым маглі, хоць трымаўся ён годна, не дазваляў асабліва шкадаваць. Праўда, аднойчы супрацоўнікі выратавалі яму жыццё: у час нясцерпнага ўжо прыступу апендыцыту паклалі яго на ссунутыя разам свае службовыя сталы з цяжкімі тумбамі і выклікалі хуткую дапамогу, вызванілі радню, знаёмых. Асабліва паклапаціліся пра захаванне легендарнага, патрапанага жыццём, як і яго ўладальнік, партфеля з назапашанымі выпіскамі, матэрыяламі і асабістымі рэчамі гэтага ўнікальнага чытача... Усё тады, дзякуй богу, абышлося. Мяркую, што бібліятэка была для Міколы Ермаловіча «другім домам». А можа, у нечым і першым.

Асобу народнага даследчыка Міколы Ермаловіча дакладна малюе яго ўласны верш, які нібы падсумоўвае зробленае:

*Незайздросную хоць долю маю,*
*Ды на лёс не наракаю я,*
*Бо найбольшае ў тым шчасце маю,*
*Што жыць будзеш, Беларусь мая!*

Пра знакамітага чытача так напісала ў сваім даследаванні «Беларусы» (зб. «Здабыткі», вып. 16) цяперашняя загадчыца чытальнай залы беларускай літаратуры ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі Я. В. Галіеўская: «Гісторыкам ад Бога называлі М. Ермаловіча, аўтара вядомай і ў свой час вельмі папулярнай кнігі "Старажытная Беларусь", якая выдавалася чытачам у аддзеле пад адказнасць дзяжурнага. Ён кожны дзень ездзіў з Маладзечна ў бібліятэку і працаваў у аддзеле зранку і да позняга вечара. Улічваючы, што М. Ермаловіч меў вельмі дрэнны зрок, яго работу можна назваць подзвігам».

**Людка СІЛЬНОВА**

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі захоўваюцца дзясяткі кніг М. Ермаловіча на тэму беларускай гісторыі: «Па слядах аднаго міфа» (1989, 1-е выд.; і некалькі наступных, апошняе ўжо ў XXI ст.), «Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды» (1990, 1-е выд.; 2001, 2-е выд.), «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд» (1994), абагульняльная праца «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» (2000, 1-е выд.; 2003, 2-е выд.; 2010, перавыданне ў «Выбраным»; 2011, аўдыякніга). Захоўваюцца таксама зборнікі, часопісы і газеты з яго публікацыямі. А яшчэ — рэдкія, унікальныя выданні, перададзеныя ў апошнія гады жыцця на захоўванне самім аўтарам (і яго прыхільнікамі). Напрыклад, пераплеценыя разам «Гутаркі» 1970-х гг. (арыгіналы і іх копіі, зробленыя яшчэ пад сінюю капірку), «Сшытак вершаў» (таксама арыгінал і копія).**

**Ёсць у фондах і кнігі з аўтографамі Міколы Ермаловіча. Яны ілюструюць і дакументальна пацвярджаюць тыя асабліва цёплыя зносіны, якія за доўгія гады склаліся паміж супрацоўнікамі і Вялікім чытачом. Так, на тытульным лісце выдання «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд» стаіць лаканічны, размашысты дароўны надпіс аўтара тагачаснаму дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі: «Шаноўнай Галіне Мікалаеўне Алейнік М. Ермаловіч. 17.V. 94. Менск». А на тытульным лісце іншай кнігі — «Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды» (1990) — стаіць дароўны надпіс аўтара класіку беларускай бібліяграфіі Н. Б. Ватацы ў сувязі з яе 83-м днём народзінаў: «Шматпаважанай Ніне Барысаўне Ватацы з віншаваннем яе ў дзень яе ўгодкаў і з пажаданнем ёй добрага здароўя і плённай творчай працы. М. Ермаловіч. 14.V.91. Менск». Назву нашай сучаснай сталіцы ён пісаў таксама па-свойму — па-старажытнаму, як у летапісах…**

# Адна на ўсіх:
## пра новую «Бярозку»,

**у якой поп-зоркі суседнічаюць з музейнымі экспанатамі, псіхалагічная дапамога з разборам літаратурнай класікі, а настаўніцкія сакрэцікі — з кулінарнымі рэцэптамі. Сур'ёзныя тэмы — у абгортцы гарэзлівай вёрсткі. Такім паўстаў перад чытачом абноўлены часопіс для падлеткаў «Бярозка».**

У яго быў няпросты лёс. Пачаўшы жыццё ў 1924-м пад назвай «Беларускі піянер», у 1929-м ператварыўся ў «Іскры Ільіча». А на час вайны часопіс увогуле прыпыніў існаванне. Урэшце, з чэрвеня 1945 года выходзіць пад сучаснай назвай.




«Бярозка» карысталася непадробнай і напраўду вялікай папулярнасцю ў 1990-я (магчыма, адзін з чыннікаў — постары з рок-зоркамі?..). З 2012 года «Бярозка» выходзіла пад адной вокладкай з «Маладосцю». Дакладней, сталася ўкладышам на некалькі старонак. З аднаго боку — крыўдна. З іншага, у гэтым была свая логіка: «Бярозка» займала і займае месца пасрэдніка між дзіцячым часопісам «Вясёлка» і «даросла»-літаратурнай «Маладосцю». Не так даўно гэты чытацкі ланцужок папоўніўся «Бусяй» для самых маленькіх.

Можна заўважыць яшчэ цікавую рэч: «Бярозка» перакідвае масток не толькі да літаратурнай «Маладосці», але і да жаночай «Алесі». Інтэрв'ю са знакамітасцямі, лёгкія кніжныя (а зрэдчас і кіна-) рэцэнзіі, рубрыка «Гатавальня»... Словам, справядліва лічыць «Бярозку» не толькі літаратурным трамплінам і прыступкай да «Маладосці». Гэты часопіс займае многа большую нішу ў беларускамоўнай перыёдыцы: прапануе псіхалагічную дапамогу чытачам, дае парады ў асабістым жыцці і школьным, развівае талент, выхоўвае літаратурны густ, ненавязліва выкладае мову, забаўляе… Ці заўжды ўдаецца ўтрымаць планку пры такім дыяпазоне задач? Пытанне актуальнае, аднак варта памятаць, што яно ж і непазбежнае праз асаблівасці сітуацыі: «Бярозка» — адзіны ў Беларусі часопіс такога роду. Адзіны на сотні тысяч падлеткаў.

У самых смелых і аптымістычных марах мне бачыцца, як рэдакцыя пашыраецца і выдае профільныя часопісы: забаўляльна-дарадчы — для дзяўчат, часопіс для юных мастакоў, камп'ютарна-спартыўны часопіс (словам, нешта, што зацікавіць хлапечую аўдыторыю). Па сённяшняй «Бярозцы» бачна, што стваральнікі яе ўсё гэта могуць...

Сёння ж цешыць ужо тое, што «Бярозка» ўрэшце стала самастойным выданнем. І ў гэтай якасці выпусціла 21 нумар. За больш як паўтара года можна прасачыць, якой яна вярнулася, як змянялася, намацваючы новы шлях, і якой паўстае менавіта цяпер.

Шырокі дыяпазон тэм патрабаваў разгалінаванай рубрыкацыі. Аднак напачатку яна была надта ўжо разгалінаванай: што ні матэрыял — новая рубрыка. Акром таго, стваральнікі палічылі добрай ідэяй дадаваць да назвы часопіса слоган, прычым кожны раз — новы, у падтэксце якога гучала «толькі для абраных». Сёння такіх слоганаў ужо не пабачыш. Увогуле, за апошнія месяцы вокладка «Бярозкі» стала больш стрыманай, стылёвай, пазбавілася ад плясучых літар і каляровага вэрхалу. Вясёленькі дызайн захаваўся ў целе часопіса, зрэшты, там ён вока не рэжа.

Рубрыкацыя таксама ўпарадкавалася. Вымаляваліся сталыя, нязменныя старонкі, прычым — нязменна якасныя. Прыкладам, «Незапыленае» прадстаўляе найцікавейшыя экспанаты розных музеяў краіны. Лаканічны подпіс да фота і лёгкая, напоўненая паветрам вёрстка затушоўваюць суровую музейнасць тэмы, так што матэрыялы чытэльныя, яркія, а адсюль і відавочная карысць: чаму б не пабачыць на свае вочы статуэтку, што належала Лермантаву (а там — і новы пост у інстаграме)?.. Праўда, троху зацірае эфект падобная рубрыка «Рэчасінасць», дзе распавядаецца пра значныя для героя публікацыі рэчы. Калі немагчыма чаргаваць, то, быць можа, варта ўвесці нейкія адрозненні ў візуальнай падачы матэрыялаў? Паасобна надзвычай удалыя «Незапыленае» і «Рэчаіснасць» відавочна дублююць адна адну.




Традыцыйныя для «Бярозкі» літаратурныя рубрыкі засталіся. Асобна паэзія (якая часта бывае на вышыні), асобна — проза (тут усё больш лірычныя замалёўкі), «Заяўка на Парнас» — моцныя празаічныя тэксты; да ўсяго — «Літаратурныя старонкі», дзе друкуюцца сталыя аўтары. Так, падлеткам цікава іх чытаць, але пачытаць іх можна і ў «Маладосці», і ў асобных кнігах, у сеціве, у рэшце рэшт. А можна было б аддаць гэтую плошчу для абмеркавання сур'ёзных, балючых праблем сучаснага юнака.

Увесь час мне думалася: чаму ў такой сучаснай, нясумнай «Бярозцы» няма ні слова пра камп'ютарныя гульні? Лічыць іх шкоднымі ці нявартымі ўвагі — нездаровы снабізм. Яны даўно сталіся часткай моладзевай культуры. І колькі нумароў таму такая рубрыка сапраўды з'явілася. На адной старонцы. З адной ілюстрацыяй.




Цудоўны раздзел «Я — мастак» таксама з'явіўся не так даўно. І адразу ж прыцягнуў увагу: па-першае, унікальнасцю, па-другое, дзелавым падыходам да тэмы. Ён ахоплівае тры сферы: адукацыя (мастацтвазнаўчыя замалёўкі), пашырэнне «знаёмстваў» — інтэрв'ю з сучаснымі мастакамі (і адначасна папулярызацыя сучаснага беларускага мастацтва) і навучанне непасрэдна мастацкім тэхнікам. Праўда, усё гэта вельмі сцісла. Такі праект варты большай плошчы.

Яшчэ адно пытанне, што ўзнікае па знаёмстве з «Літаратурнымі старонкамі», — а каго, уласна кажучы, лічыць падлеткам? Для каго выходзіць «Бярозка»? Дысананс: тэмы часцей за ўсё ўздымаюцца дарослыя, арыентаваныя на юнакоў і дзяўчат гадоў пятнаццаці, няхай трынаццаці. А літаратурныя тэксты друкуюцца ледзьве не для малодшага школьнага ўзросту.

Дарэчы, пра неўразуменне. Якую ролю ў «Бярозцы» іграе пастаянны «Падарунак ад "Вожыка"» ў выглядзе карыкатур, што дысануюць уласна з самім часопісам?.. Гэтаксама ёсць пытанне да «Зярнятак веры». Рэлігійная адукацыя карысная як частка адукацыі ў цэлым. Асабліва наглядная тут рубрыка «Чытаем ікону», дзе вядзецца мастацтвазнаўчы разбор абразоў. Але чаму вера ў аўтараў рубрыкі абмяжоўваецца праваслаўем?.. Рызыкну сцвярджаць, што каталікі таксама бралі ў рукі часопіс.

Асобна варта сказаць пра аўтарскі склад часопіса. Больш чым 50/50 (напэўна, адстокаў на 80) аўтары «Бярозкі» — аднагодкі патэнцыйных яе чытачоў. З аднаго боку, гэта несумненны плюс: размова вядзецца нароўні і на мове чытача. Але ёсць і нюанс: узровень мовы.

«Дарослай», хоць бы і занудлівай, рукі часам усё ж не хапае. Хоць бы ў рубрыцы «Школа журналістыкі», дзе друкуюцца спробы пяра, а ўласна школа пакуль не склалася.

«Дарослая» аўтарская палата сабрала сапраўдных майстроў: Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў, Арцём Кавалеўскі, Алена Беланожка, Адам Глобус… Гучны спіс і ў герояў асобных публікацый: гурт *Relikt*, Андрусь Такінданг, поп-зоркі беларускай эстрады, знакамітыя журналісты (дадаць сюды яшчэ й мастакоў з падчасопіса «Я — мастак»). Імёны — сапраўды моцны бок новай «Бярозкі».

Як і мастацкае аздабленне. Перадусім — ілюстрацыйныя матэрыялы, збольшага — Алесі Галоты. «Бярозка» клопатам мастакоў сапраўды стаецца непаўторнай.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Скрозь люстэрка — у Беларусь

Яшчэ сем гадоў таму Вера Бурлак апублікавала ў часопісе *Arche* пераклад казкі Льюіса Кэрала ***«Through the Looking-Glass, and What Alice Found There»*** — «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса». Часопіс «ПрайдзіСвет» прызнаў гэтую работу найлепшым перакладам 2009 года. А 19 верасня на краўдфандынгавай платформе «Улей» распачаўся збор грошай на выданне перакладу асобнай кнігай.




«Галіяфы» выдадуць кнігу ў цвёрдай вокладцы, 176 старонак з больш як сотняй ілюстрацый Кацярыны Дубовік. У тым, што кніга станецца падзеяй, сумнявацца не выпадае: Вера Бурлак — літаратар з імем, майстар слоўных гульняў, перакладае з англійскай, украінскай, рускай моў. Да таго ж, яна аўтар навуковых работ па дзіцячай літаратуры. Кацярына Дубовік вядомая стылёвымі, атмасфернымі ілюстрацыямі да кніг «Як Васіль змея адолеў», «Казкі» Вільгельма Гаўфа, «Сем ружаў» Надзеі Ясмінскай. За афармленне апошняй Кацярына атрымала прэмію Цёткі.

Сума, неабходная для выдання «Скрозь люстэрка...», немалая — каля 12 тысяч долараў, амаль пятая частка ўжо сабраная. У кошт ахвяравання прапануюцца падарункі: набор паштовак, кнігі з аўтографамі мастака і перакладчыка, запрашэннямі на прэзентацыю, нават выступ перакладчыцы ды фота з ёю й ілюстратарам. Пры добрым раскладзе ўжо на сёлетні Новы год кніга стане добрым і густоўным падарункам — дзецям, аматарам Кэрала, увогуле бібліяфілам.

Вера Бурлак лічыць, што для такой кнігі цяпер якраз час: «Кэрал з'явіўся ў перыяд, калі літаратура была вельмі сур'ёзная, уздымала складаныя пытанні, была дыдактычнай і павучальнай. І тады пісьменнікі нонсэнсу пачынаюць перакульваць усё з ног на галаву. Наша культура цяпер таксама вельмі сур'ёзная, сутыкаецца з рознымі выклікамі. І каб трохі перавесці дух, ёй патрэбны нонсэнс».

Падчас краўд-кампаніі перакладчыца возьме ўдзел у прома-імпрэзах. Што менавіта за імпрэзы нас чакаюць і калі, пакуль невядома. Адзінае, што можна сказаць з пэўнасцю, — адной з пляцовак стане люстэркавы лабірынт у Мінску. Пакуль што можна паглядзець буктрэйлер, зняты па сцэнары і пад кіраўніцтвам Людмілы Шапавал. У ролях маленькага Кэрала і Алісы зняліся Кастусь Жыбуль і Дзіяна Шапавал, а ў ролі Авечкі, што вяжа адразу на 14 спіцах, — сама Вера Бурлак.

Калі звярнуцца да гісторыі стварэння «Скрозь люстэрка...», на гэта Веру Бурлак натхніў Андрэй Хадановіч, чыю перакладчыцкую майстэрню яна наведвала. Праца ішла больш як год. Быў нават момант, калі перакладчыца знішчыла чарнавы варыянт работы, а пасля зрабіла ўсё наноў, — і вельмі ўдала. Як згадвае Вера Бурлак, «у мяне было адчуванне, што гэты тэкст аднекуль спампоўваецца».

У перакладзе яна імкнулася захаваць аўтарскую арыгінальнасць, брытанскія рэаліі, быць мага бліжэй да Кэрала ў гульнях са словамі. Аднак часам з'яўляюцца і адсылкі да беларускай гісторыі, як у эпізодзе пра двух Ганцоў Белага Караля, якія прымаюць дзівосныя паставы, пазычаныя Кэралам са старажытных англасаксонскіх рукапісаў. Для беларускага чытача гэты літаратурны жарт застаўся б незразумелы, таму ў Веры Бурлак персанажы ператварыліся ў «ганцоў з рысункамі» — адсылка да першай беларускай газеты.

«Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» і «Прыгоды Алісы ў Краіне цудаў» ужо двойчы «гучалі» па-беларуску — у перакладах Максіма Шчура і Дзяніса Мускага. Але дасюль ніводзін з перакладаў не выходзіў асобнай кнігай.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Выхаванне казкамі

**Свет дзяцінства і дарослы свет — гэта нібы дзве розныя краіны, грамадзяне якіх жывуць па сваіх законах. Праўда, можна сказаць, што паміж імі дзейнічае бязвізавы рэжым, магчымасцямі якога бацькі не заўсёды карыстаюцца напоўніцу. У той час, калі дзеці вымушаны пастаянна вандраваць на «дарослую тэрыторыю», іх мамам і татам часта патрэбная адмысловая нагода для сустрэчы на прасторах дзяцінства. Такой нагодай, безумоўна, становіцца сумеснае чытанне казачных гісторый. Сёння мы прапануем вашай увазе дзіцячыя кнігі, якія зусім нядаўна выйшлі ў свет у Выдавецкім доме «Звязда» і якія ўжо можна знайсці на паліцах кнігарняў.**

## ДАПАМОЖНІК ПА ДАБРЫНІ

Новая кніга казак **Дзмітрыя Саўчыка «Кола часу»** сапраўды насычана дабрынёй. Аўтар нібы стварае своеасаблівы «дапаможнік» па дабрыні і гармоніі з адпаведнымі прыкладамі-ілюстрацыямі да розных выхаваўчых пасылаў, якія, зрэшты, нават агучаны ў канцы як «мараль»: «сяброўства — вось сапраўдны скарб» («Лумпель-Флумпель»), «сяброўства — налепшае з цудаў» («Восенькі мастак»); рабіць добрыя справы нашмат больш прыемна, чым шкодніваць («Хуліганы»), зайздрасць — дрэнны стан («Хмарка-свавольніца»), празмерная цікаўнасць да чужых спраў — дрэнная якасць («Бяздонны калодзеж»); любоў — найвялікшая сіла («Асьміног-летуценнік»), дабро перамагае зло («Казачны адвакат»). І нават больш адрасаваная бацькам, чым дзецям, казка «Праўдзівае люстэрка» ілюструе тэзіс, што для таго, каб выхоўваць сваіх дзяцей, дарослым трэба найперш выхаваць сябе.

Пачынаючы чытаць кнігу Дзмітрыя Саўчыка, сапраўды трапляеш у кола часу. Сюжэты, героі і абставіны адсылаюць нас у казачны свет, створаны папярэднімі пакаленнямі. Матывы класічных ужо казак нямецкіх рамантыкаў («Канцэртны касцюм»), міфаў старажытнай Грэцыі («Асміног-летуценнік») неверагодным чынам перапляліся з уласнымі мастацкімі вынаходніцтвамі аўтара. У кнізе выкарыстоўваецца пазнавальны «казачны апарат»: сон і калодзеж як выхад у іншасвет; бескарыслівасць і сумленнасць у супрацьстаянні спакусе матэрыяльнымі выгодамі; слёзы як жывая вада; правіла трох разоў; лес як лабірынт падсвядомасці.

Усяго ў кнізе чытарнаццаць казачных гісторый. Казка «Кола часу», якая і дала назву кнізе, бадай, самая цікавая і загадкавая. Гэта лабірынт, блукаючы па якім кожны чытач знойдзе ўласнае выйсце. Як і галоўны герой італьянскі вынаходнік Бароджыа. Між тым, нягледзячы на тое, што кніга адрасаваная дзецям малодшага школьнага ўзросту, яе можна падзяліць умоўна на дзве часткі: казкі для дзяцей і казкі для дарослых (дзяцей). Тры гісторыі («Канцэртны касцюм», «Начны трамвай», «Медныя вароты») аніяк не могуць адрасавацца дзецям. Наўрад ці тэмы азартных гульняў, глыбокага творчага крызісу, злоўжывання уладай над іншымі людзьмі ці спосабаў заваявання прыхільнасці жанчыны падыходзяць для ўспрымання азначанай у анатацыі ўзроставай катэгорыі. Гэтыя гісторыі лепей пакінуць для бацькоў.

## ДАПАМОЖНІК ПА СЯБРОЎСТВЕ

Новая казачная аповесць **Генадзя Аўласенкі «Малпачка — дачка Нябеснага дракона»** створаная ў кантэксце дыдактычных традыцый беларускай дзіцячай літаратуры. Галоўная гераіня Малпачка насамрэч зусім не з'яўляецца дачкой Нябеснага Дракона, уладара ўсяго неба. Яна выдумала гэта, каб падацца сваім новым сябрам зайчанятам Вушасціку, Таўстуну і Карапузіку больш значнай і важнай. Выходзячы з легенды пра сваё каралеўскае паходжанне, Малпачка прымусіла зайчыкаў слугаваць ёй, парушаючы тым самым этычныя коды сяброўства. Пакрыўдзіла Малпачка і сваю гаспадыню — маленькую дзяўчынку, бо менавіта яе абвінаваціла ў найвялікшай бядзе: нібыта дзяўчынка — сапраўдная злая чараўніца, якая іператварыла прынцэсу, дачку Нябеснага Дракона, у брыдкую малпачку.




Калаж Кастуся Дробава.

Пасля таго, як новыя сябры адмовіліся прыслужваць маленькай падманшчыцы, яна паспрабавала завесці сяброўства з лісой, воўкам і мядзведзем. Аднак першыя двое разглядалі Малпачку толькі як магчымыя абед або вячэру, а мядзведзь, абураны несумленнымі паводзінамі ўдаванай прынцэсы, урэшце яе прагнаў…

Аўтар спрабуе падвесці сваіх чытачоў да думкі, што сяброўства можа быць толькі шчырым і бескарыслівым і грунтавацца на ўзаемнай павазе. Тэма для дзяцей малодшага школьнага ўзросту, якім адрасаваная кніга, сапраўды вельмі важная. Менавіта ў гэты перыяд свайго дзяцінства яны апынаюцца ў новым калектыве і сутыкаюцца з праблемай наладжвання прыязных сяброўскіх стасункаў з аднакласнікамі і настаўнікамі.

Аднак аўтар, на мой погляд, усё ж прапусціў у сваёй кнізе некалькі старонак. Напрыклад, нялішнім было б патлумачыць, чаму Малпачка збегла ад гаспадыні і зрабілася раптам *«няўдзячнай манюкай і самазадаволенай эгаісткай»*. Такім жа непаслядоўным з пункту гледжання развіцця сюжэта і псіхалагічна нематываваным падаецца і раптоўнае перавыхаванне, калі Малпачка коштам уласнага жыцця ратуе ад лісы і воўка Вушасціка і заяўляе, што больш *«не жадае быць такой, як раней»*. Педагагічны пасыл сфармуляваны дакладна і ясна ў выказванні галоўнай гераіні: *«А зразумела я тое, што казаць праўду куды прыемней, чым увесь час маніць! І рабіць добрыя справы лепш, чым здзяйсняць кепскія ўчынкі!»* Але чаму Малпачка прыйшла да гэтай высновы (да якой насамрэч павінен прыйсці маленькі чытач або слухач самастойна), на жаль, застаецца незразумелым.

## ДАПАМОЖНІК ПА БЕЛАРУСКАЙ РЭЧАІСНАСЦІ

«Як Шубуршун мурашоў-чужынцаў выратаваў» — чарговае выданне ў адукацыйным праекце Алеся Карлюкевіча. Назваць цыкл кніг пра маленькую міфічную істотку Шубуршуна і дзяўчынку Вераніку менавіта адукацыйным праектам мне падаецца лагічным, паколькі доля адукацыйнага складніка ў гэтых кнігах сапраўды вельмі вялікая. Часам гэта крыху замінае развіццю сюжэта, запавольваючы яго ходу, але па вялікім рахунку адпавядае пастаўленай задачы, якая гучыць так: *«Многія веды, якімі валодае Шубуршун, могуць спатрэбіцца і вам, дарагія чытачы»*.

Новая кніга прысвечана воднаму падарожжу Шубуршуна праз беларускія рэкі на тэрыторыю Украіны. Праўда, падарожжа гэтае ён ладзіць не дзеля ўласнай прыемнасці, але каб выканаць важную місію — вярнуць на радзіму прышлых мурашоў.

Прыемна ўражвае ў гісторыях пра Шубуршуна арыентацыя на беларускую сучаснасць — культурную і геаграфічную. У гэтай кнізе не сустрэнеш эльфаў, драконаў і гатычных замкаў, затое абавязкова атрымаеш экскурсію па Свіслачы, Балачанцы, Бярэзіне і Нарачы. Агучваюцца і назвы беларускага раслиннага свету, у сувязі з чым закранаюцца пытанні экалагічнай адукацыі. Акрамя гэтага, чытачы пазнаёмяцца з дзядулем Феналагам і даведаюцца, што такое феналогія, паразгадваюць разам з мурашамі беларускія загадкі. Закранаюцца ў кнізе і моўныя пытанні: Шубуршун распачынае ў сваёй рачной школе выкладанне беларускай мовы для мурашоў-украінцаў і з захапленнем падкрэслівае яе лексічную непаўторнасць і мілагучнасць. Арыентацыя на беларускую рэчаіснасць не перашкаджае аўтару ўводзіць у кантэкст міфы, легенды, паданні, песні і нават кулінарныя традыцыі розных народаў свету.

Асобна трэба вылучыць прапанаваную А. Карлюкевічам рыфмаванку для расшыфроўкі колераў вясёлкі, якая з'яўляецца адным з самых удалых з шэрагу прапанаваных сучаснымі беларускімі пісьменнікамі варыянтаў:

*Чараўнік аднойчы жартаваў —*
*Змеяў бляскам сонца фарбаваў.*

## ДАПАМОЖНІК ПА ДОСЦІПАХ

Раман **Наталлі Марчук «Асцярожна, злыя гобліны!»** выразна адрозніваецца ад усіх разгляданых вышэй і прадстаўляе іншую тэндэнцыю ў развіцці сучаснай прыгодніцка-казачнай літаратуры для дзяцей.

Кніга, на мой погляд, мае сваёй мэтавай аўдыторыяй дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Атмасфера, якая пануе ў рамане, сучасная настолькі, як і ўся медыяпрастора, што атачае цяперашніх падлеткаў: поліфанічнасць, інтэртэкстуальнасць, перафраз. Празмерная і ідавочная дыдактычнасць, якая пераважае ў беларускай дзіцячай літаратуры, падаецца сучасным падлеткам сумнай, таму раман Наталіі Марчук адназначна будзе прачытаны з цікавасцю!

Класічныя казачныя героі — кароль, прынцэса, злыя гобліны, прывіды і піраты — атрымліваюць нехарактэрныя для іх якасці, у выніку чаго ўсё перакульваецца ў тэксце дагары нагамі, захоўваючы вонкавую адданасць класічным казачным сюжэтам. Менавіта дзякуючы гэтаму дасягаецца камічны эфект, а смехам, іроніяй, жартамі пранізаны ўвесь раман, і нават самы старажытны культуры артэфакт можа стаць закладнікам трапнага досціпу.

Пэўная праблема, на мой погляд, палягае ў тым, што для таго, каб зразумець іронію, трэба для пачатку ведаць, якая рэалія ляжыць у яе аснове. Знакамітая прыгажуня Клеапатла, што атрымала сваё імя за прыгожыя патлы, і прыдворны прадказальнік Настрамамус (*Настрямамус* на мове арыгінала), і карабель прывідаў «Лятучы ірландзец» — гэта смешна, калі ведаць пра Клеапатру, Настрадамуса і «Лятучага галандца». Калі ж першасная інфармацыя ў чытачоў адсутнічае, то можа адбыцца падмена панятццяў. І гэта, магчыма, не хавае ў сабе вялікай небяспекі, калі прадмет іроніі, так бы мовіць, этычна нейтральны. Іншая рэч, калі «ахвярай» досціпу (у сучаснай падлеткавай поп-культуры гэта называецца сцёбам) становіцца тэма, якая знаходзіцца ў пэўных этычных межах.

У сувязі з гэтым варта асобна ўзгадаць аднаго з персанажаў рамана — незаганную панну Глюкерыю. Два гобліны Зэдлік і Гэдлік спрабуюць зразумець, што азначае выслоўе «незаганная панна». Цытату прывяду на мове арыгінала:

*«Я так понимаю, — просвещал друга Зедлик, — что непорочная дева — это которая не порочит никого, с кем появляется. С ней, в общем, не стыдно на людях показаться.*

*Гедлик кивнул: — Получается тогда, что порочная дева всех порочит. Видно, ведет себя так, что порядочному человеку с ней в гости не пойти. Может, икает за столом или плюется»*.

Тут не вядзецца пра рэлігійныя пачуцці, адсутнасць або наяўнасць якіх з'яўляецца асабістай справай кожнага чалавека. Мне падаецца, што варта весці гаворку пра парушэнне меры этычнай адказнасці, якую бярэ на сябе кожны пісьменнік, выпускаючы ў свет кнігу для дзіцячай аўдыторыі.

Можна запярэчыць, што раман «Асцярожна, злыя гобліны» не пазначаны ў анатацыі як дзіцячая кніга. Аднак гэты твор разглядаецца адназначна ў кантэксце дзіцячай літаратуры. Мабыць, ёсць такія выпадкі, калі нават самы досціпны і таленавіты жарт усё-ткі не мае быць агучаны. Асабліва ў тэксце дзіцячай кнігі.

І нарэшце: мне заўсёды падавалася несправядлівым тое, што звычайна па-за ўвагай застаецца выдатная праца мастакоў, чые ілюстрацыі аздабляюць дзіцячыя кнігі. Усім дарослым людзям, якія чытаюць кнігі разам са сваімі дзецьмі або ўнукамі, вядома, што вельмі цяжка затрымаць увагу дзіцяці на старонцы без малюнка. Магчыма, імёны мастакоў Ганны Каралёвай («Кола часу»), Марыі Міцкевіч («Малпачка — дачка нябеснага дракона») і Марыі Каратаевай («Як Шубуршун мурашоў-чужынцаў выратаваў») павінны быць на вокладцы побач з імёнамі аўтараў.

Жанна КАПУСТА



## Бажэна МАЦЮК

***

*Гэта ўсё, што ёсць у чалавека:*
*Гонар, стрыжань, пошук, боль.*
*У адчаі кожны з нас — калека:*
*Прыгук, недахоп і золь,*
*Паўадценне, зніклае ў эскізе,*
*Цень, прывід, клішэ, няўрод,*
*Прахалода, толькі коска ў кнізе,*
*След, нішчымнасць і сыход.*

## Без-бес-бяз-бяс…

*Мой кожны дзень — апошні…*
*Мой кожны крок — у бездань…*
*Вакол людскія пожні…*
*Бесцань…*

*Маркота ў кожным гуку…*
*Вачэй бясконцы смутак…*
*Бяспечны шэры бруку*
*Скрутак…*

*Ламалася жалеза*
*Пад ветрам беспрычынна…*
*Бясспрэчна соль дыеза*
*Гліна…*

*Мой вечар — расстраляны,*
*Бязладны, бессаромны…*
*І танчыць крык жарсцвяны*
*Домны…*

## Развітальнае

*Якая ёсць… А што шукаеш ты*
*Сярод блазноты, пыхі і вар'яцтва*
*У краі, дзе на клей змянілі ткацтва,*
*А на татэм — крыж веры залатой?*

*Не прыніжай! І твой спрадвечны*
*шлях*
*Змяніўся ўпотай брукам*
*бездакорным*
*Да хаты, дзе мацнейшы —*
*Богу роўны,*
*Пяшчоты рух зрываўся на замах.*

*Адчай пакінь — пакінь і не вяртай.*
*І не вяртайся, страціўшы надзею, —*
*Мне самасць будзе лепшай прывілеяй,*
*Пакуль шукаць ты будзеш вечны*
*рай!*

### Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

***

*Вар'ятка. Безумоўна, я вар'ятка.*
*Бо веру людзям. Веру. У людзей.*
*У думках каляровых сум-зярнятка*
*Гадую для апірышча-надзей.*

*Мяне знішчалі. Што далей?*
*Я веру!*
*І кожны дзень — мой доказ*
*вам усім,*
*Што людзі не схаваліся ў паперу,*
*Каб стаць чужымі кожнаму. Зусім.*

*Я веру. Веру! Веру чалавеку!*
*Вар'ятка, пэўна... Толькі веру я!*
*Я веру, што і ты, як ён, адвеку*
*Жывеш крыштальным словам*
*«дабрыня».*

## Мурашы

*Дамок пад елкай вырас чынны,*
*Шчыруюць дружна мурашы.*
*Гляджу на клопат іх няспынны,*
*Ажно святлее на душы.*

*А дзесьці пачмурэлі людзі,*
*Знішчаюць радасць і жыццё,*
*Нібы ніхто іх не асудзіць*
*За дзікі шлях у небыццё.*

*Нібы зусім не чалавекі,*
*А крыважэры, дзікуны,*
*Бо гвалт пакуты, смерць і здзекі*
*Нясуць, пачварныя, яны.*

*Ідуць вайною брат на брата*
*Пад д'яблаў смех — забіць, спаліць…*
*У мурашоў нам, людзі, варта*
*Вучыцца ў гэтым свеце жыць.*

***

*Іду палявою сцяжынай,*
*Самотную песню пяю…*
*Якою такою правінай*
*Час выкасіў вёску маю?*

*Крычы, не крычы, а навокал*
*Няма адгукнуцца каму.*
*Азерца заслепленым вокам*
*Дакор свой мне шле аднаму.*

*Ды пыл пад нагамі ўзлятае —*
*Ён хатай жывой быў спярша…*
*Забродззе, калыска святая…*
*Няўцешная, плача душа.*



## Міхась ПАЗНЯКОЎ

*На сене сплю юнацкім сном,*
*А ранічай прачнуся —*
*Зірну на бацькаў сад і дом,*
*Ад болю ўвесь зайдуся.*

*На луг дзяцінства зазірну,*
*Вярну душу-гарэзу —*
*З разбегу, як раней, нырну*
*У сцішаную Грэзу.*

*Чулліві самы, паплыву*
*Туды, дзе плачуць гусі.*
*Захмеляць травы галаву:*
*Дамоў! Дамоў вярнуўся!*

***

*Я дзіўна шчаслівы*
*На гэтай зямлі,*
*Дзе боль у нябёсы*
*Нясуць жураўлі,*
*Маёй артэрыяй праз сэрца*
*Бяжыць праз далі, праз гады,*
*І ад яе ўжо мне не дзецца —*
*Ніяк, ніколі, нікуды.*

*Сцяжынка родная, святая*
*Ляціць да сонца, да аблок,*
*Дзе, мрою, мама залатая*
*Ласкава скажа мне: «Сынок».*

***

*Над старой, замшэлай хатай*
*Маладзік цікаўны звіс,*
*Клён старэчы, расахаты*
*Туліць голаў на карніз.*

*Глуха дзесь сава рагоча.*
*На яе нязвыклы смех*
*(Заглушыць нібыта хоча)*
*Наш дварняк рассыпаў брэх.*

*Па здзічэлай, змрочнай вёсцы,*
*Дзе тры хаты на вярсту,*
*Адзінокім, дзіўным госцем,*
*Растрывожаны, іду.*

*Цемра колкая такая*
*Навакол, бы ў страшным сне.*
*Чую, вёска сустракае*
*Насцярожана мяне.*

*Павярну да роднай хаты*
*З болем пра дзяцінны кут.*
*І заплачу, вінаваты,*
*Што радзіме горка тут.*

***

*Вось ізноў у роднай вёсцы*
*Крочу вуліцай адзін*
*Саматлівым познім госцем,*
*Як зявнацку, блудны сын.*
*Дождж ліецца, быццам слёзы.*
*Я знямеў, бы вінават,*
*Што бабулямі бярозы*
*Абдымаюць труны хат*

## Родны кут

*Тут раздолле сычам*
*і вакол ні душы.*
*Толькі памяць мяне*
*акунае ў былое*

*І паказвае мне*
*не самоту глушы,*
*А дзяцінства маё,*
*хоць кіно і нямое:*

*Вось чаромха кіпіць*
*пад святлістым акном.*
*Бэз разлівам густым*
*палымнее ля хаты…*

*А вось мама*
*частуе мяне малаком…*
*А вось я крочу лугам*
*на Грэзу да таты…*

*А вось вуліца ўся —*
*нібы ў казцы жывой:*
*Свецяць яркія зоркі*
*вяргіняў наўкола,*

*А вось хлопцы-сябры*
*басаногай гурбой*
*Запрашаюць мяне*
*на футбольнае поле…*

*А вось юная фея*
*пятнаццаці год*
*Да мяне падышла*
*і красой паланіла…*

*А вось белых бяроз*
*залаты карагод*
*На багатым двары*
*усміхаецца міла…*

*Я таму кожны год*
*на радзіму лячу,*
*Адмаўляю Парыж*
*і паўднёвыя пляжы,*

*Што я памяці фільмы*
*у вёсцы кручу,*
*Тыя, што анідзе*
*і ніхто не пакажа.*



Фота Кастуся Дробава.

## Дома

*Неба — у блакіце,*
*Бусел — як прыліп.*
*Сонцам залаціцца*
*Хата паміж ліп.*

*Невымоўна свежы*
*Мрою хлебны дух.*
*У рамонках межы —*
*Бляск іх не патух.*

*Палыном сівеюць*
*Сад і агарод,*
*Што ў тузе нямеюць*
*Тут не першы год.*

*Коска над павеццю,*
*Ржавая, вісіць…*
*«Што з таго?» — здаецца,*
*А душа баліць.*

## У родны кут вярнуўся

*Прыехаў зноў я да бяроз*
*Высокіх і дзівосных.*
*Да ніў, хвалюючых да слёз,*
*У сонечныя вёсны.*

*Якую бясконца,*
*Балюча люблю,*
*Якой я любові*
*У неба малю,*

*Дзе сэрцам заплáчу*
*Ад той дабрыні,*
*Якой так багата,*
*Куды ні зірні.*

*І нам не пагроза*
*Зняверання час,*
*Святла ён не згасіць,*
*Не выстудзіць нас.*

## Родная сцяжынка

*Сцяжынка родная, святая —*
*Маёй любві яна крывінка.*
*Хоць кажуць, што любоў сляпая,*
*Ды бачыць цэлы свет сцяжынка.*
*Ад ганка сціплага штодзень*
*Бяжыць, вірлівая, жывая,*
*І сэрцы шчырыя людзей,*
*Нібыта нітачка, сшывае.*

*Сцяжынка родная, святая*
*Бяжыць купацца да ракі.*
*Хай кажуць — доля ў нас скупая,*
*Я вам зайздрошчу, землякі.*



Андрэй СІДАРЭЙКА

# НЕЧАКАНЫ ГОСЦЬ

*Фантасмагорыя*

Сусветны Дзень пісьменніка празаік Васечкін пачаў адзначаць з самай раніцы.

Спярша ён прачнуўся, прыняў душ. Затым пачаў рыхтаваць святочны сняданак. На стале адзін за адным з'яўляліся селядзец, вінегрэт, смажаная бульба.

Пасля Васечкін апрануў свой лепшы касцюм.

Калі ж збіраўся садзіцца за стол, у дзверы нечакана пазванілі.

Васечкін вырашыў, што прыйшлі павіншаваць суседзі. Але на парозе стаяў незнаёмец.

— Дзень добры, я да вас у госці, — сказаў чалавек і без прапановы зайшоў у кватэру.

— Прабачце, калі ласка, але мне здаецца, што мы не знаёмыя, — разгублена прамовіў пісьменнік.

— Як? — у сваю чаргу здзівіўся госць. — Я — Іван Іванавіч. Ваш персанаж з апавядання «Летні туман». Памятаеце такога?

Васечкін уміг узгадаў некалі напісаны ім твор. А таксама галоўнага героя, Івана Іванавіча. Якім ён быў — станоўчым ці адмоўным — пісьменнік не памятаў. Але маўчаць было нельга.

— Так, узгадваю, — адказаў Васечкін. — Але як такое можа быць?

— Як? Звычайна, — спакойна прамовіў нечаканы візіцёр. — Што, калі я персанаж, дык не магу зайсці ў госці? Я, між іншым, недалёка адсюль жыву.

І, не пытаючыся дазволу, мужчына прайшоў на кухню.

— Ну што? За свята! — прамовіў Іван Іванавіч, трымаючы ў руках шклянку празрыстай.

— Прабачце, я толькі крыху, — сказаў Васечкін.

— Ага, — вымавіў персанаж, — як мне, дык поўную, а сам?! Між іншым я таксама толькі коркі нюхаў, пакуль не стаў персанажам.

Госць апракінуў шклянку, стаў закусваць.

— Ведаеце, — пачаў Васечкін асцярожна. — За ўвесь час літаратурнай дзейнасці сваіх герояў я прыдумваў. У герояў маіх твораў няма рэальных прататыпаў.

— А я хто тады? — азваўся Іван Іванавіч.

— Не ведаю, — чэсна сказаў гаспадар кватэры.

Іван Іванавіч дастаў з кішэні пінжака візітку і даў яе Васечкіну.

— Вось. Тэлефануйце, калі што. Я тут недалёка жыву, — сказаў ён.

«Ага, — падумаў Васечкін. — Пэўна, прыхільнік майго таленту. Але ў святочны дзень вырашыў мяне разыграць».

— Шаноўны пісьменнік, я скажу прама: у жыцці я зусім не такі, як у творы. Я вельмі сціплы.

«Яно і відаць», — з'едліва падумаў пра сябе Васечкін.

— А тое, што я ў творы трапляю ў розныя непрыемныя сітуацыі, мне зусім не падабаецца. Але я вам усё роўна ўдзячны. Калі б не вы, то я так і застаўся б звычайным Іванам Іванавічам. А так дзякуючы вашаму твору я стаў знакамітым.

Васечкін, нібы ўнікаючы ў сутнасць справы, кіўнуў.

— А вы, выбачайце, адзін тут жывяце? — запытаўся Іван Іванавіч.

— Так, — адказаў гаспадар.

— Я так і думаў. Ну, па другой?

І госць без цырымоній апракінуў яшчэ шклянку.

— Вы ведаеце, я такім вас і ўяўляў, — сказаў Іван Іванавіч. — Зусім непрыкметны мужчына стварае смелых персанажаў. Прабачце, піша іх з сапраўдных прататыпаў.

— Я вам яшчэ раз кажу, — пачаў апраўдвацца гаспадар. — У маіх герояў няма прататыпаў.

— Ды кіньце дурыць, — адмахнуўся Іван Іванавіч. — А Людка? Таксама не?

— Якая Людка? — здзівіўся Васечкін.

— З апавядання «Навальніца». Яна вам таксама прывітанне перадавала. Дарэчы, жыве ў суседнім пад'ездзе — побач са мной.

Васечкін вырашыў больш не перабіваць госця. Усё дарма. Бо, як ні парадаксальна, персанаж заўсёды мае рацыю. Гэта ведае кожны пісьменнік.

Іван Іванавіч распавёў пра сваё жыццё. Пачаў з самага маленства і закончыў сённяшнім днём. Тое-сёе параіў выкарыстаць Васечкіну ў наступных творах.

Акрамя гэтага, Іван Іванавіч з'еў усе прысмакі са святочнага стала, пад якім цяпер стаяла пакінутая госцем пустая бутэлька. Напрыканцы ён праспяваў песню «Чёрный ворон».

Калі Іван Іванавіч нарэшце скончыў, было тры гадзіны дня. Ён раптам падхапіўся, узгадаўшы, што на сёння ёсць і іншыя планы.

— Ды і вас затрымліваць не хочацца, — сказаў госць гаспадару. — Я разумею, у вас шмат спраў. Дык вы там напішыце працяг пра мае прыгоды.

Яшчэ раз сказаўшы «да пабачэння», Іван Іванавіч нарэшце знік.

Васечкін працягваў сядзець за сталом. Ён думаў, што ствараць персанажаў добра, але быць з імі знаёмымі наяве — не вельмі. Бо на іх, аказваецца, не набрацца ні часу, ні пачастункаў.

# ВОСЕНЬСКІ НАСТРОЙ

*Апавяданне*

Маё працоўнае месца — каля акна. На працягу года гляджу ў яго часцей, чым у дакументы, якія павінен афармляць у тэрмін. Вось і цяпер заняты гэтай справай.

Якая пара года за акном? Ранняя восень. На дрэвах жоўкнуць кроны. Лісце на іх аранжавае, жоўтае, светла-карычневае. Часам у акно стукаюць кропелькі дажджу.

Нягледзячы на агульную занятасць, у нашым аддзеле кожны паспявае займацца сваёй справай. Да прыкладу, Сашка на пачатку працоўнага дня гуляе ў "гонкі на выжыванне". Настасся раз-пораз перапісваецца з віртуальнымі сябрамі ў сацыяльных сетках. І толькі мне заўсёды дастаецца ад кіраўніцтва, хоць я вышэйпералічаным не захапляюся, а толькі гляджу ў акно.

Як прыемна гуляць цяпер сярод дрэў! Пад нагамі шэлест палай лістоты. Зусім хутка будзе лістапад. Але адарвацца ад крэсла не магу: загадчык аддзела даў заданне, і я абавязаны ўправіцца да канца дня.

Тэлефануе мабільны. Гэта Аля, настаўніца рускай мовы і літаратуры.Алі падабаецца Залаты век рускай класікі. Жартам я называю яе дзяўчынай з пазамінулага стагоддзя. А сябе — з мінулага, таму што мне бліжэй Сярэбраны век.

Аля прапануе пагуляць вечарам у парку. Няйнакш хоча адчуць на сабе тое, што адчуваў у свой час Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. Аля расказвае вучням, што восень для паэта была часам натхнення і творчых пошукаў, яднаннем з прыродай у пару яе згасання.

Абяцаю Алі прыйсці своечасова.

— Слова гонару? — перапытвае Аля.

— Так, — запэўніваю я.

На гэтым наша гутарка завяршаецца. Без дзесяці пяць я скончваю працу. Адношу загадчыку і з лёгкай душой збіраюся дадому. Перад спатканнем планую забегчы да сябе. А гэта паўгадзіны язды ў грамадскім транспарце. Няшмат. Але, улічваючы маю непунктуальнасць, час да дома можа заняць нашмат больш.

Ідучы на спатканне, набыў ля прыпынку ў бабулі для Алі букецік палявых кветак. Апошні. Навошта мучыць старога чалавека? Няхай ідзе адпачывае.

Як ні дзіўна, на месца прыйшоў першым. Напэўна, гэтым разам Аля вырашыла спазніцца як сапраўдная дзяўчына. Нарэшце з'явілася — праз пятнаццаць хвілін. Дару ёй кветкі.

— Прыгожыя, — захапляецца яна.

Ідзём па алеі. Уверсе шумяць кроны дрэў. Пад ногі сцелецца жоўтае лісце. Звычайна падчас такіх прагулак мы гаворым пра літаратуру. Аля ў гэтым пытанні адчувае сябе як рыба ў вадзе. А мне цікава паслухаць пра высокае і вечнае. Напэўна, Аля ўспрымае мяне як яшчэ аднаго вучня. Толькі ўласнага. Таго, які не сыходзіць пасля сарака пяці хвілін. Таму свае думкі можа выказваць мне гадзінамі. Сёння мы гаворым пра вобраз тургенеўскай дзяўчыны. Якая яна? І чаму няма выявы дзяўчыны гогалеўскай? Або, скажам, чэхаўскай дамы? Вядома, не той, з сабачкам. А наогул.

Аля тлумачыць, што тургенеўская дзяўчына мае моцны, незалежны характар, здольная здзейсніць подзвіг у імя кахання. Да таго ж яна любіць чытаць, граць на музычным інструменце. А яшчэ ў тургенеўскай дзяўчыны ёсць адметныя рысы — шчырасць і сумленнасць…

— Давай прысядзем, — прапаноўвае Аля, калі мы праходзім каля лаўкі.

— Давай, — пагаджаюся я.

Аля апускае галаву мне на плячо.

— Скажы, а ты змагла б стаць для мяне тургенеўскай дзяўчынай? — пытаюся я.

— Час пакажа, — адказвае яна і чырванее.

Напэўна, Аля думае, што такім чынам я хачу зрабіць ёй прапанову. Але на самай справе я пра гэта яшчэ не думаў. І як гэта адбудзецца, не ўяўляю. Мне б хацелася, каб Алі гэта спадабалася. Але тады трэба ненадакучліва даведацца, якія яе любімы літаратурны герой. Затым прачытаць адпаведны твор і зрабіць пэўныя высновы. Але паколькі я больш люблю слухаць, а не чытаць, то гэта, мабыць, адбудзецца не хутка. З іншага боку, мы сустракаемся з Аляй ужо другі год. Значыць, у мяне шмат якасцей, якія ёсць у яе любімага героя. Інакш хіба яна сядзела б тут, на лаўцы, у восеньскім парку, побач са мной?

Пачынае змяркацца. Праводжу Алю дадому.

— А давай заўтра махнём за горад, у лес, — прапаноўвае раптам Аля. — Ведаеш, я ўжо сто гадоў не была ў лесе.

Бацькі Алі — акадэмікі. Напэўна, вучонае званне не дазваляе ім расслабляцца. Аднак Аля пакуль толькі настаўніца і можа сабе дазволіць прагулку па лесе.

— Давай, — згаджаюся я.

Дамаўляемся сустрэцца на вакзале а дзявятай раніцы, на першую электрычку. Паўгадзіны — і мы за горадам.

Дома я думаю пра тое, што заўтра было б нядрэнна захапіць з сабой вядзерца і сцізорык. Знойдзем грыбоў. Гэта, вядома, не зусім рамантычна, але практычна. Тым больш будзе своеасаблівы трафей.

Наступным днём да станцыі я падышоў пазней умоўленага часу. Аля глядзела на гадзіннік. Баялася, каб я не спазніўся.

— Добрай раніцы! — сказаў я, падышоўшы да яе са спіны. Аля здрыганулася, павярнулася.

— Дурань! — сказала яна і хацела пакрыўдзіцца. Але замест гэтага ўсміхнулася.

У акне мільгалі шматпавярховікі, дрэвы. Прайшло паўгадзіны. І вось электрычка спыняецца, мы сходзім на перон. Наперадзе некалькі гадзін да таго, калі электрычка будзе вяртацца ў горад…

Нарэшце Аля заўважае ў маіх руках вядзерца.

— А гэта навошта? — пытаецца яна.

— Для трафеяў, — адказваю я.

Ад перона да лесу каля кіламетра. Мы ідзём па лузе. Гэтая адлегласць пераадольваецца лёгка, і вось над намі кроны восеньскіх дрэў.

Лясная сцяжынка вядзе за сабою. Праз некаторы час мы сходзім з яе ды ідзём напрасткі. Я гляджу пад ногі: знайсці б грыб, пажадана баравік. Але сыдзе і чырвонагаловік.

— Якая цішыня! І прыгажосць! — захапляецца Аля.

— Цяпер ты разумееш, адкуль чэрпаў натхненне Пушкін? — пытаюся я.

— Здаецца, так, — адказвае яна. — Але, напэўна, у той час лес выглядаў яшчэ прыгажэйшым, чым сёння.

— Вядома, і сонца свяціла па-іншаму, — пастараюся пажартаваць я.

Аля не адказала.

— Напэўна, тургенеўскай дзяўчыне спадабалася б пасядзець на ўскрайку лесу з томікам паэзіі сярод бяроз, — спрабую я перавесці размову на іншую тэму.

— Напэўна, — адказвае Аля.

— Калі б мы маглі на машыне часу перанесціся ў мінулае, я б хацеў, каб ты была не тургенеўскай дзяўчынай, а Алесяй з аповесці Купрына і жыла тут, у гэтым лесе. Я б на электрычцы прыязджаў да цябе кожны дзень.

— Але тады не было электрычак, — папраўляе мяне Аля.

— Ну тады прыходзіў бы пехатой. Або дабіраўся на коні.

— Так далёка-далёка? — перапытвае Аля.

— Так далёка-далёка, — для пераканаўчасці кажу я.

— А як жа злосная бабуля? За гэтыя два гады, што мы разам, ты так яшчэ і не пазнаёміўся з маімі бацькамі.

— Гэта можна выправіць хоць сёння.

Аля глядзіць на мяне. Вочы блішчаць. Раней я ніколі не бачыў яе такой. «Вось яно! Звычайнае чалавечае шчасце», — думаю я.

Раптам пад дрэвам заўважаю вялікі баравік. Напэўна, ён рос тут даўно, але ніхто яго не заўважаў.

— А вось і трафей, — кажу я. Шапка баравіка вельмі вялікая. Таму здаецца, што вядро амаль поўнае.

— А які трафей павязу з сабой я? — пытаецца Аля.

— Зараз што-небудзь прыдумаем.

Я пачынаю збіраць для Алі восеньскі букет з ляснога герані.

— Вось. Дагэтуль я табе кветкі купляў, а сёння сабраў сам.

Аля бярэ букет. На вачах блішчаць слязінкі.

Мне здаецца, што такая восень у мяне першая. Хоць на зямлі я ўжо не адзін год. «Напэўна, гэта і ёсць каханне», — думаю я.

Праз некаторы час мы вяртаемся з лесу на перон. Пад'язджае электрычка. Мы сядаем у яе і вяртаемся дадому.

Пад стук колаў Аля прапаноўвае:

— А давай заўтра — у кіно, а на наступныя выхадныя зноў у лес.

Але яшчэ — цэлы тыдзень, на працягу якога я буду хадзіць на працу, выконваць розныя даручэнні, глядзець у акно і думаць пра тое, якая ўсё ж цудоўная пара восень.

Вагон ехаў па рэйках…

## Млын навін

### Міні-музей аўтографаў

**беларускіх і замежных пісьменнікаў створаны ў Глыбокскай цэнтральнай раённай бібліятэцы**

Экспанаты для яго збіралі на працягу многіх гадоў, ашчадна захоўваючы кнігі з дарчымі надпісамі вядомых пісьменнікаў, паэтаў, публіцыстаў, якія прыязджалі ў райцэнтр на сустрэчу з чытачамі. Цяпер калекцыя налічвае больш як дзвесце выданняў з аўтографамі Івана Шамякіна, Генадзя Бураўкіна, Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Арлова, Дануты Бічэль-Загнетавай і інш. Першым подпіс на кнізе «Франтавая азбука» ў 1968 годзе пакінуў выхадзец з тутэйшых мясцін Лявонцій Ракоўскі. Адзін з апошніх экспанатаў атрымалі ў межах «Вішнёвага фестывалю» ад Кацярыны Сосна, пісьменніцы з Шаркаўшчыны. Дарэчы, больш як дзясятая частка падобных рукапісных «слядоў» папоўніла калекцыю падчас Дня беларускага пісьменства ў Глыбокім у 2012 годзе.

* * *

Выстаўка «Плакаты вельмі польскія» Рышарда Каі адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль». Рышард Кая — аўтар больш як 200 сцэнаграфій для тэатра, балета, оперы, тэлебачання і некалькіх фільмаў. Працаваў для большасці музычных сцэн Польшчы і іншых краін. Сярод іх — Францыя, Германія, Бразілія, Аргенціна, Ізраіль і Егіпет. У палацы Румянцавых і Паскевічаў прадстаўлена некалькі дзясяткаў арыгінальных плакатаў гэтага цікавага польскага майстра. Яго работы прыцягваюць вобразнай мовай знакаў і метафар. Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак: першая прысвечаная найбольш вядомым польскім гарадам і мясцовасцям (з серыі «Польшча»), у другой дэманструюцца тэатральныя плакаты. Падчас прэзентацыі адбылася сустрэча з аўтарам, які з гэтай нагоды прыехаў у Гомель.

* * *

Акунуцца ў атмасферу гісторыі тысячагадовай даўніны запрашае выстаўка «Арганаўты Сярэднявечча», якая ладзіцца ў краязнаўчым музеі Полацка. Гэты праект прысвечаны агульнаеўрапейскай гісторыі канца I — пачатку II тысячагоддзя н. э. і аб'ядноўвае многія краіны і народы. У экспазіцыі прадстаўлена 11 пастараў, выраблены Наўгародскім музеем-запаведнікам, з яркім ілюстрацыйным матэрыялам сапраўдных артэфактаў эпохі вікінгаў. Дапаўняюць экспазіцыю музейныя прадметы з фондаў Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, асобныя з якіх былі прэзентаваны ўпершыню. Калегі з Ноўгарада падрыхтавалі некалькі інтэрактыўных цікавінак: і дзеці, і дарослыя змогуць сабраць набор упрыгожванняў для жаночага і мужчынскага скандынаўскага касцюма, адказаць на пытанні гульні-вікторыны, «праплысць» на караблі па гандлёвым шляху «з вараг у грэкі»!

* * *

Клічаўскі краязнаўчы музей запрашае на выстаўку «Беларускі ручнік», дзе прэзентуюцца 35 ручнікоў з фондаў установы. «Некалькі ручнікоў адносяцца да савецкага перыяду — іх вышывалі на фабрычнай белай тканіне, роўнаддзю або крыжыкам. Зразумела, яны адрозніваюцца ад самабытных старых ручнікоў разнастайнасцю колераў і кветкавымі кампазіцыямі. Даваенныя экспанаты — тканыя. Арнамент на іх вытканы або вышыты ў асноўным чырвонымі ніткамі з невялікім дадаткам чорных. Тады выкарыстоўваліся арнаменты, якія сімвалізавалі сонца, зямлю, добры ўраджай».

Калекцыя ручнікоў дапоўнена прадметамі побыту, андаракамі, наміткамі, паясамі, вышытымі жаночай і мужчынскай кашулямі. Супрацоўнікі музея, пачынаючы з 1979 года (з часу заснавання музея), сабралі багатую калекцыю ручнікоў, некаторым з якіх больш як 100 гадоў. Далёка не кожны музей Беларусі можа пахваліцца такой разнастайнасцю шэдэўраў.

# ПЕРШАЯ ПАЭМА ПРА БЕЛАРУСКУЮ ВЁСКУ

***У польскамоўным выданні — часопісе «Łowiec», які выходзіў у Львове з 1878 года, адшуканы вершаваны твор вялікай формы пра вёску Дзяніскавічы (цяпер — Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці). Твор мае аднайменную з вёскай назву.***

Падчас нашых краязнаўчых росшукаў выпадкова трапілася пад увагу выданне з паэмай, названай у гонар адной з самай старажытных і легендарных вёсак Ганцавіцкага раёна. Аўтар, магчыма, — пазашлюбны сын аднаго з Радзівілаў, вядомы ў свой час паэт і мастак Артур Бартэльс (1818 — 1885). Пры не публікацыі пазначана месца і час напісання: Дзяніскавічы, люты 1862 года. Гэта значыць, 154 гады таму.

Ёсць падставы меркаваць, што ў Дзяніскавічах аўтар і нарадзіўся. Яго бацькамі лічыцца памешчыцкая пара — Людвік Бартэльс і Канстанцыя Заблоцкая. Але ў самога паэта праслізгваюць намёкі на больш высокае паходжанне: маўляў, у жылах цячэ «найсапраўднейшая і вельмі старая княская кроў».

А. Бартэльс атрымаў добрую адукацыю: вучыўся ў навучальных установах Варшавы, Пецярбурга і Парыжа. Гэта дапамагло раскрыць таленты пісьменніка, мастака і нават музыкі. Выступаў творца ў папулярных жанрах, што прыносіла немалую славу. Пры жыцці ён выдаваўся ў Вільні, Варшаве, Кракаве, Львове і нават у Парыжы. Аднак творы, напісаныя на аснове ліцвінскага матэрыялу, — гэта «Драмы і камедыі» (Вільня, 1859), п'еса «Госці» (Кракаў, 1875), паэмы «Палескі тыдзень», «Летнія ды асеннія паляванні» і «Зімовыя ловы на Літве» (Львоў, 1878 — 1880) — сталіся не надта папулярнымі. Найбольш вядомы зборнік «Песенькі і сатыры», які выйшаў пасля смерці аўтара, у 1888 годзе.

Пры выбары мовы для творчасці для свайго асяродку — ліцвінскай шляхты — А. Бартэльс не быў арыгінальны. Яна была польскай. Нягледзячы на гэта, творца не лічыў сябе палякам, не раз праявіў прыналежнасць да ліцвінскага народа. У недалёкай для тагачасся — сярэдзіны XIX стагоддзя — будучыні ліцвінская свядомасць трансфармуецца ў беларускую. Несумненна, роднай моваю народа, сярод якога прыйшоў на свет, А. Бартэльс валодаў. Аднак традыцыя пісьма на роднай мове тады толькі аднаўлялася. У той час многія калегі А. Бартэльса па пяры і паходжанні пачалі ўсё часцей звяртацца да рэалізацыі свайго творчага патэнцыялу ў мове занядбанага за стагоддзі народа. У аўтара «Дзяніскавіч» па-беларуску запісаў не выяўлена. Аднак, хоць твор і напісаны на польскай мове, многія элементы выдаюць на тое, што думае паэт па-беларуску.

Пачатак паэмы дужа характарыстычны:

| | |
|---|---|
| *Witaj wiosko ty poleska,* | *Сустракай мяне ты, палеская вёска,* |
| *Gwiazdko dni dziecinnych,* | *Зорачка дзён майго маленства,* |
| *Gdzie spłonęła pierwsza łezka,* | *Дзе спылала першая слёзка* |
| *Z oczu mych niewinnych.* | *З маіх нявінных вачэй.* |
| *Witaj domu, gdzie dzieciątkiem* | *Сустракай, дом, дзе дзіцяткам* |
| *Pierwsze spędził lata,* | *Першыя гады правёў,* |
| *Tyś się zdawał mi początkiem* | *Ты здаваўся мне пачаткам* |
| *Razem koncem świata.* | *І разам з тым канцом свету.* |

Мясцовасць у «Дзяніскавічах» выпісана даволі рэалістычна, з дакументальнай дакладнасцю:

| | |
|---|---|
| *Tyś ta sama jak przed laty,* | *Ты такая ж, як гады таму,* |
| *Taż cerkiew z krzyżami,* | *Тая ж царква з крыжамі,* |
| *I też same kurne chaty,* | *І тыя самыя курныя хаты,* |
| *Kryte dranicami.* | *Крытыя дранкаю.* |
| | *(Падрадкоўны пераклад наш. — **А. Т.**)* |

Сапраўды, да часу напісання паэмы ў Дзяніскавічах пераважалі курныя хаты, якія неўзабаве пачалі змяняцца на жыллё з комінам.

Далей аўтар апісвае як тыповыя рысы, характэрныя для тагачасных вёсак гэтай мясцовасці, так і эксклюзіўныя з'явы. Да першых аднясём, напрыклад, этнаграфічныя малюнкі быту, да вузкалакальных — напрыклад, тапанімічныя назвы ў наваколлі. Больш за тое, у некаторых выпадках (такіх налічваецца пяць) паэт звяртаецца да зносак-тлумачэнняў з мэтай павысіць ступень чытацкага разумення момантаў, якія з розных прычын не ўпляліся ў тканіну паэтычнага тэксту.

Складаецца твор з шасці частак, кожная з якіх мае ад 5 да 23 чатырохрадковых строф (усіх — 68). Змест мае лірычна-апісальны характар. Аповед вядзецца ад першай асобы. Лірычны герой пасля расстання прыязджае ў родны кут, дзе сорак гадоў таму распачаў знаёмства са светам. Яго душа заходзіцца ад замілавання пры выглядзе царквы, курных хатак, калодзежаў, гумнаў. Асаблівая ўвага адрасуецца дому, дзе правёў першыя гады. Далей герой выходзіць за межы сяла — на сустрэчу з грэбляй, «мілымі для вуха» ўрочышчамі (Градкі, Ізбіск, Лясішча, Дзераміншча, Крэмцы), вартаўнікамі лясоў — леснікамі Сойкамі і Кавальчукамі, дакладней, іх нашчадкамі. Прычым аўтар, як этнограф, дэталізуе многія карціны. Зразумела, найперш тыя, якія звязаны з асабістымі ўспамінамі. Так, ужо як аматар палявання прыпамінае, што «на Ізбіску мядзведзя забіў». У апошняй частцы аўтар раскрывае прычыну такіх цёплых адносін да Дзяніскавіч ды іх наваколля: «Вы некалі замянілі мне цэлую сям'ю».


Nr. 10. Lwow, dnia 1. Października 1878. Rok 1.

Inseraty

ŁOWIEC

PRZEDPŁATA

WYCHODZI Z POCZĄTKIEM KAŻDEGO MIESIĄCA.

А. Бартэльс нібы прадчувае, што гэта яго апошняя сустрэча з Бацькаўшчынай. Меней чым праз год пачнецца паўстанне К. Каліноўскага. Каб уцячы ад пакарання, А. Бартэльс едзе жыць у Варшаву. У 1875 — 1878 гадах жыве ў Рызе. Апошнім прытулкам стаў Кракаў. Але, дзе б ні быў паэт, яго душа балела па радзіме. Таму ён так шанаваў невялічкую паэмку «Дзяніскавічы», якую не згубіў у віхурах часу і вырашыў дастаць на свет Божы праз 16 гадоў пасля стварэння. У год пераезду аўтара за мяжу (1878) у Львове пачаў выходзіць месячнік «Łowiec». Назва адносіцца да старапольскіх слоў і перакладаецца як «паляўнічы».

Як заядлы паляўнічы і адначасова літаратар, А. Бартэльс выклаў на паперы свае назіранні пра любімае хобі і родныя мясціны. Так паўсталі апублікаваныя ў названым часопісе шматлікія нарысы пра паляванне і згаданыя тры паэмы на гэту ж тэму. Прычым тая ж паэма «Дзяніскавічы», відавочна, ствaралася не для друку, а для сябе, бо пісалася задоўга да публікацыі, ды з цягам часу нашчадкамі была забыта зусім.

Асобна зазначым, што знойдзены твор з'яўляецца першай паэмай пра беларускую вёску. Дагэтуль былі пра гарады і вадаёмы: напрыклад, «Прысвячэнне гораду Вільня» Антонія Гарэцкага, «Ваколіцы Віцебска» і «Вілія» Тадэвуша Лада-Заблоцкага, «Да Палоты» Юзафа Маралёўскага, «Свіцязь» Яна Чачота, «Свіцязь» Адама Міцкевіча, «Да Дзвіны» Ануфрыя Казакевіча, «Да Нёмана» Юліяна Корсака... Але гэта вершы. Твораў вялікай паэтычнай формы, напісаных пра канкрэтную вёсачку на Беларусі, не было нават у «вясковага лірніка» Уладзіслава Сыракомлі.

Такімі даробкамі на беларускай глебе рыхтавалася ніва, якая неўзабаве дала ўзыходы ў выглядзе класічных твораў, той жа «Новай зямлі» Якуба Коласа, пераклічка з якой выразна адчуваецца. Безумоўна, знойдзеная пасля доўгага забыцця паэма заслугоўвае ўвагі гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, краязнаўцаў, а таксама перакладчыкаў. Знаходка павінна стаць даступнай шырокаму колу чытачоў нашай краіны. Зрэшты, як і ўся ліцвінская спадчына Артура Бартэльса.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

## З нагоды

# «НОВЫ ЗАПАВЕТ З ПСАЛТЫРАМ»

Гэты рарытэт — каштоўны набытак для Музея гісторыі Магілёва, дзе адбылася прэзентацыя новых экспанатаў, якія папоўнілі калекцыю ўстановы. Старажытны асобнік — выдатны прыклад магілёўскай традыцыі кнігадрукавання, што ўбачыў свет у 1652 годзе ў Куцеінскай друкарні, заснаванай вядомым асветнікам і літаратарам Спірыдонам Собалем.



У рэдкім для Беларусі выданні змешчаны гравюры святых евангелістаў, якія няблага захаваліся і з'яўляюцца вельмі каштоўнымі элементамі. А набыта кніга дзякуючы фінансавай падтрымцы выхадца з Магілёўшчыны, пісьменніка Валерыя Казакова.

Сярод іншых навінак музейнай калекцыі — ручка бронзавага кінжала VII — V стагоддзяў да н. э., квілон (частка баявога кінжала) XV стагоддзя, пячатка з гербам дваранскага роду Суліма, грэнадзёрскі штык 1812 года, кранік ад нейкай ёмістасці або трубы пачатку XX стагоддзя.

Магілёўскі скульптар Андрэй Вараб'ёў прадставіў і падарыў музею ўзоры шчытоў з выявамі галавы льва і магілёўскага герба, якімі будзе ўпрыгожана падчас рэканструкцыі агароджа Пушкінскага моста праз Днепр.

**Міра ІЎКОВІЧ**




# Пагартаем пажаўцелыя лісты...

**Разбіраючы старыя газеты, неспадзявана знайшоў сапраўдны скарб. Каштоўнай знаходкай стаў нумар грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты «Беларускі звон» за 14 кастрычніка 1921 года.**

Гэта выданне нацыянальна-дэмакратычнага кірунку выходзіла ў Вільні з красавіка 1921-га па люты 1923 года з невялікім перапынкам. Рэдактарам-выдаўцом быў вядомы драматург і тэатральны дзеяч — Францішак Аляхновіч. У газеце змяшчалі свае допісы Б. Тарашкевіч, М. Гарэцкі, Л. Родзевіч, М. Краўцоў, А. Луцкевіч (пад псеўданімам А. Навіна), Н. Арсеннева, У. Жылка.

Пра што пісаў «Беларускі звон»? Рэдакцыйны артыкул «Яшчэ аб палітычным курсе» пачынаецца з крытыкі палітыкі ўціску з боку польскіх улад па вырашэнні нацыянальнага пытання. Прынамсі, рэдакцыя выступае супраць прымусовага перaводу выкладання прадметаў на польскую мову ў Беларускай віленскай гімназіі, асуджае высяленне Першай віленскай мужчынскай (літоўскай) гімназіі з раней займанага будынку. Такія захады польскага ўрада Сярэдняй Літвы, на думку рэдакцыі, не змяншаюць вастрыні нацыянальнага пытання, а, наадварот, паглыбляюць да непатрэбнай глыбіні, пагаршаючы і без таго душную палітычную атмасферу.

Газета таксама крытыкуе вынікі рыжскага дагавора 1921 года і прапануе супрацоўнічаць з усімі дэмакратычнымі сіламі, якія падтрымліваюць культурна-нацыянальнае адраджэнне.

Другі артыкул першай старонкі называецца «Ад беззямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасці» і распавядае пра перамогу ірландскіх хлебаробаў над англійскім панаваннем.

Вольная трыбуна даецца для палемістычных нататак. Аўтар, які схаваўся пад псеўданімам «Каз. Св.», падымае пытанне: «Царква ці касцёл?» Ён адзначае, што гэта тэма «шчыпіцільная» і падыходзіць трэба да яе сур'ёзна, каб пазбегнуць звычайнага дылетанцтва. Напрыканцы аўтар спадзяецца, што наш народ створыць еднасць рэлігіі Усходу і Захаду.

Важныя палітычныя падзеі, што адбыліся ў свеце за тыдзень, прадстаўлены ў рубрыцы «Палітычная хроніка». Узгадваюцца не толькі Заходняя Беларусь і Літва, але і найбліжэйшыя суседзі — Польшча, Чэхія, Савецкая Расія. Таксама ёсць карэспандэнцыі з Германіі, Англіі, ЗША. Сёння нязвыкла чытаць такія пасажы: «Румынскі прэм'ер-міністр Авэрэску паслаў Чачэрыну ноту, што пытанне аб выдачы бацькі Махно і яго паплечнікаў можа вырашыцца толькі тады, калі бальшавікі паабяцаюць не караць іх смерцю. У Варшаве савецкае пасольства першы раз вывесіла чырвоны сцяг». Не менш цікава падаецца беларуская хроніка, дзе змешчаны допісы з Вільні, Гродна, Ашмян.

На апошняй старонцы шмат абвестак. Аднаўляе сваю дзейнасць жаночая гімназія ў Нясвіжы і запрашае жадаючых да здачы ўступных іспытаў. Весткі з Віленскай біржы расказваюць пра кацiроўкі тагачаснай валюты — долараў, франкаў, фунтаў, царскіх рублёў. Нават узгадваюцца керанкі, але насупраць іх курса абмену стаіць прочырк.

Беларуская кнігарня прапаноўвае партрэты дзеячаў і пісьменнікаў: Цёткі, Івана Луцкевіча, Францішка Багушэвіча, Алеся Гаруна. Зроблены агляд новых кніг, што выйшлі ў беларускамоўных выдавецтвах Вільні. Сярод аўтараў прадстаўленыя М. Гарэцкі, Я. Лёсік, А. Навіна.

Не губляе актуальнасці і зварот да настаўнікаў: «Грамадзяне вучыцялі й вучыцелькі! Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можыце сабраць вaколічные беларускія народныя песні і гэтым укладзіце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў "Беларускі звон". Дык не марнуйце дарма свайго вольнага часу!».

**Віталь ЖУРАЎСКІ**

*Сцяжынамі памяці*

# «Скарб» Смоліча ў музеі Багдановіча

Дакументальная выстаўка «Аркадзь Смоліч. Жыццё за Беларусь…», прымеркаваная да 125-годдзя з дня нараджэння знакамітага беларускага географа і грамадска-палітычнага дзеяча, адкрылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.



*Аркадзь Смоліч, 1918 год.*

Аркадзь Смоліч — адзін з заснавальнікаў беларускай сацыял-дэмакратыі, дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння, старшыня Цэнтральнага бюро краязнаўства Беларусі, рэдактар газеты «Грамада», прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Максім Багдановіч і Аркадзь Смоліч пазнаёміліся восенню 1916 года, калі малады беларускі паэт вырашыў вярнуцца з Яраслаўля на радзіму, у Мінск. Раўеснікі і аднадумцы, яны хутка сталі сябрамі, сустракаліся ў «Беларускай хатцы», разам з Зоськай Верас рыхтавалі лемантар для маленькіх беларусаў, марылі пра будучыню…

Сёння ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваецца архіў сям'і Смолічаў, які ашчадна зберагаўся нашчадкамі вучонага. Матэрыялы выстаўкі ўпершыню прэзентуюць шырокай публіцы фотаздымкі і дакументы вучонага, яго лісты жонцы і дзецям, рукапісы, машынапісы і выданні навуковых работ.

Асаблівую цікавасць у наведвальнікаў выклікаюць фотаздымкі, зробленыя падчас экспедыцыі Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі ў Мазырскае Палессе ў 1927 годзе. На рарытэтных картках адлюстраваны краявіды, пабудовы, этнаграфічныя тыпажы.

**Бажэна СТРОК**

# Пад знакам Магдалены

## Імя вялікай мецэнаткі і асветніцы ўславілі на яе радзіме



**Вось яна, жывая ява гісторыі: вяртанне на радзімую старонку Магдалены Радзівіл. Пакуль толькі ў свой маёнтак Жорнаўка, што ў Лапіцкім сельсавеце Асіповіцкага раёна. Тут яна жыла на пачатку XX стагоддзя і цешылася кволымі парасткамі адраджэння, дзеля якога не шкадавала ні часу, ні фінансаў. Сюды завітвала кола саіскальнікаў грашовых выдавецкіх грантаў княгіні, адсюль яна падтрымлівала сувязь з санкт-пецярбургскай суполкай беларусаў, што выдавалі кнігі ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша ваконца», з віленскімі выдаўцамі газеты «Наша Ніва» ды і самой друкарняй Марціна Кухты, якая паўстала ў 1906 годзе ў Вільні разам з беларускімі першадрукамі.**

Адкрыццё мемарыяльнай шыльды Магдалене Радзівіл адбылося 23 верасня і стала прыкметнай з'явай у жыцці раёна. Шлях да падзеі палягаў праз асветніцтва, распачатае Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмай. Дзякуючы колішняй яе загадчыцы Валянціне Логвін у мясцовых клубах і бібліятэках ставіліся спектаклі, прысвечаныя мецэнатцы, выдаваліся календары і паштоўкі з выявай Магдалены Радзівіл, на нарадах бібліятэкараў яе імя згадвалася сярод першых гістарычных асоб краю. Пазней гэтую эстафету пераняла новая загадчыца ЦБС Анжэла Хлус.

Далучыўся да справы і раённы гісторыка-краязнаўчы музей. Яго загадчыца, Антаніна Сцяпанава, уславіла помнікамі не адно мемарыяльнае месца ў Асіповіцкім раёне, яна дасведчаны арганізатар, ведае, з чаго справу пачаць і чым закончыць, падтрымлівае сувязь з колам нераўнадушных да спадчыны грамадскіх актывістаў. Усё гэта выявілася і пры ўсталяванні мемарыяльнага знака ў Жорнаўцы, дзе напоўніцу раскрылі сябе актывісты-валанцёры Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Гэта яны адшукалі годны камень, вырабілі і замацавалі шыльду, на якой, дарэчы, напісана: «Уладальніцы маёнтка Жорнаўка, слыннай дзеячцы беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя, мецэнатцы і асветніцы Магдалене Радзівіл з роду Завішаў (1861 — 1945) ад удзячных патомкаў».

Адкрыццё мемарыяльнага знака, што сабрала мясцовых жыхароў, навучэнцаў Лапіцкай і Жорнаўскай сярэдніх школ, ганаровых гасцей, было ўрачыстым, з музыкай і спевамі. Аднак многіх землякоў Магдалены ў гэты пагодны восеньскі дзень не пакідаў шчымлівы сум. «Колькі ж жывых згадак пра пані Магдалену можна было занатаваць, калі б мы крышачку раней звярнуліся да яе асобы», — са скрухай зазначыла васьмідзесяцігадовая Раіса Нікіціна, колішняя мясцовая бібліятэкарка...

Начальнік ідэалагічнага аддзела раёна запэўніла, што адкрыццё мемарыяльнага знака — гэта кропка адліку. Належыць яшчэ шмат зрабіць па ўпарадкаванні прылеглай да яго тэрыторыі, усладўленні імя Магдалены Радзівіл. Не выключана, што летам, на дзень народзінаў мецэнаткі, тут будуць ладзіцца свята беларускай культуры і пісьменства. Памяць пра яе будзе жыць.

**Віктар ХУРСІК**

# Ма(г)нетызм творчага

## Рзвіццё мастацкага рынку як адна з задач «Восеньскага салона» ў Мінску

**Сёння ўвечары ў сталічным Палацы мастацтваў адбудзецца адкрыццё найбуйнейшай у творчай прасторы Беларусі выстаўкі-кірмашу сучаснага беларускага мастацтва «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам». У краіне арт-праект адкрываецца ў другі раз. Мінулай восенню ён выклікаў вялікую цікавасць у беларускай публікі, якая і паспрыяла арганізацыі другога «Восеньскага салона». Пра тое, як адбываўся адбор мастацкіх твораў, якія пастаўлены задачы і чаго чакаць сёлета ад канцэпцыі арт-праекта, карэспандэнту «ЛіМа» распавёў дырэктар Рэспубліканскай галерэі «Палац мастацтваў» Аляксандр Зінкевіч:**

**— У папярэднім годзе падчас рэалізацыі «Восеньскага салона» вы рабілі стаўку на маладое мастацтва. Якой канцэпцыі прытрымліваліся сёлета?**

— У цэлым канцэпцыя практычна не змянілася: мы пакідаем «Восеньскі салон» з узроставым парогам ад васямнаццаці да сарака гадоў. Адзінае, што пашырылася, — колькасць заявак ад мастакоў. Калі раней удзельнікаў было восемдзесят восем, то цяпер — сто шэсцьдзясят адзін.

Сёлета крыху змяніўся парадак адбору: акрамя журы, якое працуе з намі, мы запрасілі яшчэ прадстаўнікоў галерэй з розных гарадоў Беларусі, каб яны заявілі маладых аўтараў, з якімі асабіста працавалі раней, тым больш у межах агульнай экспазіцыі будуць прадстаўлены аўтары з усіх абласцей. Такім чынам, мы зрабілі стаўку на экспертнае прафесійнае журы і на прапановы практыкуючых людзей, якія працуюць у галіне галерэйнай справы.



*Падчас «Восеньскага салона з Белгазпрамбанкам» у 2015 годзе.*

Дарэчы, летась у нас атрымалася разбурыць стэрэатып, што цікавасць беларускага гледача прыкаваная толькі да прозвішчаў вядомых аўтараў. У нашай экспазіцыі былі прадстаўлены творы ў большасці невядомых мастакоў, але ж усё роўна «Восеньскі салон» наведала звыш дзесяці тысяч чалавек.

**— Практычна заўсёды, калі выстаўка падыходзіць да канца, арганізатары робяць высновы, што было добра, а што, напрыклад, не атрымалася. Што не было здзейснена падчас першага «Восеньскага салона»? Ці былі ўнесены карэктывы ў сістэму падрыхтоўкі, экспанавання арт-праекта?**

— У выпадку «Восеньскага салона» задачы, якія мы ставілі летась, выкананы ўсе. Сёння ж пастаўлена яшчэ адна мэта — захаваць удалы вынік мінулага года. Тады банкаўская калекцыя была магнітам, прыцягнула цікавасць гледачоў, паглядзім, як будзе сёлета. Дзеля гэтага акрамя банкаўскай калекцыі будуць выстаўлены творы французаў, удзельнікаў «Восеньскага салона» ў Парыжы.

«Восеньскі салон» — мастацкая выстаўка-кірмаш, дзе пытанні продажу творчых работ калі не асноўныя, то вельмі важныя. Наш арт-праект нельга назваць мастацкім у чыстым выглядзе, паколькі ён прадугледжвае запуск пэўных бізнес-механізмаў у Беларусі, якія мы былі абавязаны развіваць раней. Бо беларускае мастацтва ў грамадстве — усё што заўгодна, толькі не камерцыйны інтарэс.

У мінулым годзе мы зразумелі, што «Восеньскі салон» дае нам матэрыял для аналітыкі. Няма нідзе ў Беларусі, на жаль, звестак пра аб'ёмы мастацкага продажу, пра аналіз творчага рынку, пра кірункі, якія падабаюцца пакупніку. Таму акрамя таго, што мы хочам зрабіць добрую, якасную экспазіцыю, імкнёмся развіваць той інструментарый продажу, які дазволіць прыцягнуць гледача і вызначыць баланс паміж жаданнямі пакупніка і магчымасцямі аўтара.

**— Ці можаце акрэсліць задачы другога «Восеньскага салона»?**

— Фармат другога «Восеньскага салона» адкрыты, у нас не было ніякай прадузятасці наконт адукацыі аўтараў, наконт іх творчага досведу. На этапе прыняцця заявак мы хацелі паглядзець, якімі магчымасцямі валодаюць маладыя мастакі, бо мы ж шукаем новыя імёны. І гэта адна з першых задач — пашырыць спіс маладога мастацтва.

Таксама пры падрыхтоўцы цяперашняга «Восеньскага салона» мы праводзілі вялікую працу з рэгіёнамі, бо ў іх няма практычнай магчымасці развівацца ў больш шырокай прасторы. Мастакі быццам і рады весці актыўнае творчае жыццё, але ёсць шэраг фактараў, якія стрымліваюць гэты працэс. Калі ж у 80-х гадах рэгіёны актыўна папаўнялі беларускае мастацтва, то цяпер сітуацыя змянілася. Хоць ёсць, вядома, такія мастацкія школы, як Гродзенская, Віцебская, Гомельская, якія імкнуцца папулярызаваць сваю творчасць у максімальным аб'ёме, усё роўна сталіца перамагае. Таму аналіз творчай актыўнасці сучасных беларускіх аўтараў — таксама важная задача нашага праекта. Нам трэба разумець, ці магчыма з такой актыўнасцю аўтарам працаваць на сусветным мастацкім рынку.

Ёсць праблема і з вядомасцю беларускіх прозвішчаў у сусветнай прасторы. Напрыклад, імёны англасаксонскіх мастакоў у вядомых мастацкіх даведніках займаюць каля васьмідзесяці працэнтаў, беларускіх жа мастакоў там можна знайсці адзінкі. Чаму Беларусь не прадстаўлена на буйных мастацкіх рэсурсах? Паколькі наша інтэграцыя, у творчым сэнсе, у сусветны працэс цалкам на пачатковай стадыі, то гэта таксама часткова задача для «Восеньскага салона» і наогул для беларускага мастацтва. Вельмі важна, што наш арт-праект дэманструе, што беларускія мастацкія выстаўкі таксама могуць быць паспяховымі.

**— Па якіх крытэрыях выбіраліся мастацкі творы? І ці адлюструецца, на ваш погляд, у прасторы тэндэнцыя развіцця айчыннага маладога мастацтва?**

— Наша журы ў параўнанні з наведвальнікамі праекта, бывае, вызнае дыяметральна супрацьлеглыя погляды на сучасную творчасць. Напрыклад, у мінулым годзе экспертнае журы аддавала перавагу творам з наватарскім падтэкстам, якія ў гледачоў не займалі лідарскіх пазіцый. У беларускай публікі цікавасць выклікала больш традыцыйная творчасць. Арганізатарам вельмі падабаецца двухбаковая адзнака твораў, бо, зноў жа, глядач сам вызначае, якім хоча бачыць жывапіс, фатаграфію. А меркаванне журы заклікае звярнуць увагу на нюансы, якія чалавек можа не разумець альбо не ведаць. Сёлета мы таксама падтрымліваем такую сістэму адзнакі твораў.

Што тычыцца тэндэнцый, то адну вылучыць вельмі складана, тут жа змешваецца мноства мастацкіх напрамкаў, якія яшчэ трэба размеркаваць прыгожа ў агульнай прасторы. Экспазіцыя для «Восеньскага салона» выконвае важную ролю: трэба, каб адабраныя творы не змяшаліся і не згубіліся падчас іх аб'яднання.

**— Як ідзе супрацоўніцтва з удзельнікамі парыжскага «Восеньскага салона»? Якія перспектывы гэта дае беларускім мастакам?**

— Дзякуючы Белгазпрамбанку сапраўды наладжваюцца зносіны з прабацькамі назвы нашай выстаўкі-кірмашу, і ўжо сёлета беларускі глядач зможа ўбачыць лепшыя працы з апошняга «Восеньскага салона» ў Парыжы, паколькі яны будуць экспанавацца ў Мінску. Працуем над тым, каб нашы пераможцы змаглі выставіць свае работы ў Францыі. Гэта паслужыць пачаткам сістэмнага супрацоўніцтва, падчас якога, магчыма, будзе наладжаны пастаянны выставачны абмен. Але ж усё залежыць ад цікавасці гледачоў, што, зноў жа, на семдзесят працэнтаў вызначыла неабходнасць другога «Восеньскага салона».

**Вікторыя АСКЕРА**



*Тамара Шэлест «Stop», 2015 г.*

# Тэлефонная размова з алоўкам

## Звяртаць увагу на простае шляхам філасофскага тлумачэння

Колькі разоў на дзень мы карыстаемся мабільным тэлефонам? Палічыць практычна немагчыма. Сёння мабільная сувязь вырашае самыя розныя пытанні, на якія раней спатрэбілася б не адна гадзіна. Але ці думалі мы калі-небудзь, што з-за частай балбатні не звяртаем увагу на асабістыя думкі, меркаванні, якія ўзнікаюць падчас размовы? Мастакі Тамара Шэлест і Андрэй Якубаў у новым творчым праекце «Тэлефонная размова», які размясціўся ў арт-прасторы «Высокае месца», паспрабавалі прааналізаваць, як размова па тэлефоне ўздзейнічае на свядомасць чалавека.

На працягу доўгага часу Тамара Шэлест карысталася алоўкамі падчас тэлефонных размоў. Яна малявала не сітуацыі, а асацыятыўныя вобразы, якія ўзнікалі ў думках. У выніку атрымалася серыя твораў, большасць з іх — у стылі авангард. У Андрэя Якубава больш рэалістычныя работы, ён садзіўся за малюнкі пасля размоў. Работы мастакоў нагадваюць творчыя рэбусы, загадкі, па сімвалічных дэталях якіх разгадваеш тэматыку кампазіцыі.

Чым такія праекты цікавыя сёння? Напэўна, тым, што аўтары звяртаюцца да тэм, якія ў прынцыпе зрэдку хто будзе разбіраць па драбніцах, шукаць плюсы і мінусы ў звычайных побытавых сітуацыях, хоць насамрэч гэта карысна. Тамара Шэлест і Андрэй Якубаў маладыя творцы, ім цікава корпацца ў штодзённасці, звяртаць увагу на простае шляхам філасофскага тлумачэння. У праекце «Тэлефонная размова» творцы разважаюць не толькі над вобразамі, але і над паводзінамі людзей. Гэта адлюстравана ў колеравым спалучэнні. Чалавек — нібы скарбніца эмоцый, ніколі нельга спадзявацца на пэўны настрой, таму колер дзесьці больш мяккі, а дзесьці зусім халодны.

Навучыцца слухаць свет вакол сябе — не такая і простая задача. Як правіла, асабістыя перажыванні і думкі захапляюць нас і не даюць магчымасці расслабіцца, адчуць энергію наваколля. У выніку мастацкага эксперымента Тамара Шэлест і Андрэй Якубаў усё ж такі змаглі навучыцца адпускаць асабістае і паглыбляцца цалкам у працэсы, якія адбываюцца навокал. «Тэлефонная размова», магчыма, не адзіны іх сумесны праект, паколькі ў творцаў ёсць жаданне працягваць эксперыментаваць.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Мільён жыццяў

## Што прыводзіць на сцэну аматараў?

У кожнага тэатрала-аматара свая гісторыя, як ён апынуўся ў тэатры. Хтосьці даведаўся ад знаёмых, прыйшоў без асаблівых чаканняў і раптам зразумеў: гэта тое, чаго даўно шукаў. Ёсць людзі, якія прыйшлі з кінапляцоўкі: атрымалі невялікую ролю — спадабалася, захацелася працягу. Некаторыя хацелі паправіць маўленне, разняволіцца ці развіць уменне пераконваць, а атрымалі нашмат больш.

Народныя, эксперыментальныя тэатры пачынаюцца, калі рэжысёры не бачаць тэатра, які ім патрэбны. Тады робяць яго самі, такім, які ён павінен быць, на іх думку. «Мастацтва не бывае прафесійным або самадзейным. Проста яно ці ёсць, ці яго няма. Не мае значэння, хто ім займаецца. У тэатры я не звяртаю ўвагі на дыпломы, я хачу ўбачыць мастацтва. Калі я бачу, што ў прафесійным тэатры артысты крыўляюцца, пераігрываюць, лічу гэта самадзейнасцю. А ў некаторы аматарскі тэатр зазірнеш — і хвалюешся, і смяешся, і плачаш разам з артыстамі. Вось там — мастацтва»,— гаворыць заснавальнік народнага тэатра «Жывая планета» Артур Забалотнікаў.

Галоўная задача тэатра — пакінуць гледачу думкі, дапамагчы вырашыць праблемы, адказаць на вечныя пытанні, прымусіць спачуваць таму, што адбываецца на сцэне. Многія лічаць, што ў аматарскім тэатры падобнае немагчыма: тут жа людзі, у якіх няма акцёрскай школы. Але якраз гэта ўдзельнікі імкнуцца атрымаць падчас заняткаў. «Спачатку мала хто разумее, што аматарскі тэатр — такі ж сур'ёзны, як і прафесійны. Звычайна знаёмыя паблажліва ставяцца да нашай дзейнасці: сабралася кампанія, робяць нейкую самадзейнасць. А калі бачаць вынікі, меркаванні змяняюць», — расказвае ўдзельнік тэатра Юрый Хмяленка. Некаторыя аматары потым становяцца прафесіяналамі або выкладчыкамі акцёрскага майстэрства.

Яшчэ адна складанасць для аматараў — валоданне сабой. Акцёр — своеасаблівы інструмент для выказвання, які павінен быць заўсёды наладжаны, каб выклікаць патрэбныя пачуцці, узнаўляць жыццё іншага чалавека, жыць ім як уласным. Аматарам, можа, цяжка, бо яны займаюцца не толькі тэатрам. Таму для іх гэта яшчэ спаборніцтва з самімі сабою: ці здолею паспець усюды?

Праз гэтае спаборніцтва ўдзельнікі тэатральных гурткоў пазнаюць шмат новага. Напрыклад, пачынаюць лепш разумець тэатр як мастацтва. Яны ўсведамляюць, што ў жыцці нельга іграць, інакш перастанеш быць асобай. «Калі займаешся ў тэатры, пачынаеш бачыць хлусню: чалавек з сябе нешта корчыць, а на самай справе далёка не такі. І калі бачыш гэты "перфоманс" збоку, разумееш, як гэта смешна і недарэчна», — дзеліцца Сняжана Жураўлёва, якая паспела павучыцца ў некалькіх акцёрскіх школах.

Калі акцёр выходзіць на сцэну, ён жыве ў прапанаваных абставінах. Такі падыход уплывае і на штодзённае жыццё: акцёры-аматары, калі жывуць свае ролі, лепш сябе разумеюць. Іншы бонус — развіваецца назіральнасць: больш звяртаеш увагу на жэсты, словы, асаблівасці людзей, каб потым выкарыстаць гэтыя дэталі на сцэне. Для гэтага трэба паглыбіцца ў чалавека, знайсці яго ўнутранае жыццё, зразумець, чым ён жыве, думаць пра яго праблемы і радасці. У такіх абставінах і сам становішся крыху псіхолагам.

Засвойванне акцёрскага майстэрства дапамагае таксама забыцца пра страх публікі, іншых людзей. Калі рэжысёр дае заданне, для акцёра перастае існаваць увесь свет — ён ужо ўнутры сітуацыі. «Калі мне даюць ролю, я не дзейнічаю, як гэты герой, я — сам гэты герой, — гаворыць з натхненнем Юрый. — Я не прыкідваюся ім, а фактычна жыву яго. Забываюся пра сябе і цалкам ператвараюся ў тую асобу». У гэтым увесь сэнс: каб акцёр не іграў героя, а стаў ім на нейкі час, ведаў усё пра таго сябе. А калі сам акцёр ведае, што гэта праўда, нашмат прасцей пераканаць іншых.

Уладзімір Неміровіч-Данчанка гаварыў пра тры праўды: тэатральную, сацыяльную і жыццёвую. Без кожнай з іх немагчыма нараджэнне мастацкай праўды. Рассмяшыць, выклікаць слёзы лёгка, а зрабіць так, каб чалавек паверыў — самае складанае. Сэнс мастацтва ў тым, каб на сцэне ператварыць выдумку ў праўду. Артыст — той, у каго гэта атрымліваецца, незалежна ад таго, аматар ён ці прафесіянал.

**Юлія РУДЗЕНКА**

# Вяршыні «народнага»

## П'еса «Чырвоныя кветкі Беларусі» прынесла ганаровае званне пухавіцкім акцёрам

У 1957 годзе ў невялікім горадзе Мар'іна Горка быў створаны драматычны гурток, а праз дванаццаць гадоў існавання акцёры сумесна з кіраўнікамі сталі ствараць спектаклі драматычнага характару: напрыклад, «Паўлінку» Янкі Купалы, «Бяда ад далікатнага сэрца» паводле Уладзіміра Салагуба. У 1971 годзе пастановай калегіі Міністэрства культуры БССР драматычнаму гуртку было прысвоена званне «Народны». Тады ж дзесяці ўдзельнікам калектыву было прысвоена ганаровае званне «Артыст народнага тэатра».

На працягу трыццаці гадоў сумесна з калектывам народнага тэатра Пухавіцкага раёна працавалі каля дзесяці рэжысёраў: Вадзім Дапкюнас, Анатоль Чарноцкі, Міхаіл Жарко і іншыя. На сцэне тэатра больш чым за паўвекавую гісторыю існавання прайшло нямала спектакляў, якія пакідалі ў гледачоў толькі станоўчыя ўражанні, нягледзячы на тое, што сярод 29 удзельнікаў няма ні аднаго прафесіянала (усе — прадстаўнікі розных прафесій, якім ад 16 да 72 гадоў). Штотыдзень акцёры збіраюцца на сцэне раённага Дома культуры, каб рэпеціраваць, гатовыя і ствараць новыя пастаноўкі.

З 1998 года тэатрам кіруе Наталля Румшэвіч, прафесіянал сваёй справы, скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Яна сцвярджае:

— Акцёры ў нас вельмі добрыя. Божы дар ёсць, безумоўна, у кожнага. Усе працуюць з пачуццём поўнай адказнасці перад гледачом. Часам бывала, што спектакль ужо пачынаўся, а акцёр спяшаўся з працы ў маршрутцы. А адзін выпадак наогул складана забыць. Наша ўдзельніца Юлія Савіч вярталася з Чарнагорыі і дабегла амаль за пару хвілін да свайго выхаду на сцэну. Усе ўжо рыхтаваліся выпускаць іншага акцёра, але Юлія з'явілася са словамі: «Я ж сказала, што прыеду…» У будні нашы акцёры працуюць, таму збіраемся напрыканцы тыдня вечарам і самі ствараем дэкарацыі для пастановак. Часам атрымліваецца запазычыць касцюмы ў Купалаўскім тэатры, тэатры оперы і балета. Калі ў вядучых тэатрах Беларусі даведваюцца, што ў нас рыхтуецца новы спектакль, дзеляцца рэквізітам.

Тэатр прымаў удзел у конкурсах і фестывалях раённага, абласнога, рэспубліканскага і нават міжнароднага маштабу. Так, напрыклад, у лістападзе 2014 года калектыў удзельнічаў у абласным фестывалі народных тэатраў «Бярэзінская рампа» і заняў трэцяе месца. У гэты раз быў прадстаўлены спектакль-балада па п'есе Аляксея Дударава «Радавыя». Артысты настолькі ўжыліся ў свае ролі, што здаваліся, быццам яны распавядаюць не гісторыі, напісаныя аўтарам, а свае асабістыя, перажытыя. Вядучая актрыса купалаўскага тэатра Марыя Захарэвіч пасля прэм'еры спектакля «Радавыя» сказала: «Я рэдка калі плачу, але вы вымусілі мяне пусціць слязу».

Бясцэнным досведам для калектыву стаў удзел у здымках фільмаў беларускіх рэжысёраў. Дакументальная карціна пра гісторыю Пухавіцкага раёна была прадстаўлена ў рамках праекта тэлеканала АНТ «Зямля беларуская», стала ўладальніцай найвышэйшай тэлевізійнай узнагароды — прэміі «Тэлевяршыня». Акцёры Пухавіцкага народнага тэатра таксама сыгралі ролі Якуба Коласа, Янкі Купалы, прадстаўнікоў знакамітага і за межамі раёна роду рэвалюцыянераў Бонч-Асмалоўскіх. Эпізадычныя ролі дасталіся пухаўчанам у ваенным фільме Уладзіміра Гасцюхіна, здымкі якога праходзілі на тэрыторыі раёна.

**Кацярына ГРУША**

# «ЧУЖАЯ СЦЭНА — СВАЕ ЛЮДЗІ»

## Гастрольны «драйв»: погляд з-за куліс

**Тэатрам вялікім і маленькім, дзяржаўным і прыватным аднолькава неабходныя гастролі: найперш магчымасцю кантакту з той публікай, якую трэба заваяваць за вельмі кароткі тэрмін. На гастролях у Латвіі ў Тэатра Генадзя Гладкова «Тэрыторыя мюзікла» на гэта быў усяго адзін дзень.**



*За кулісамі: артысты тэатра «Тэрыторыя мюзікла» рыхтуюцца да выхаду на сцэну падчас гастроляў у Латвіі.*

Даўгаўпілскі тэатр у Латвіі пачаў сваю гісторыю яшчэ ў XIX стагоддзі. Калегі з Латвіі — прафесіяналы, усе пытанні: ад фінансавых да тэхнічных — вырашыліся хутка. Нават дапамаглі з рэквізітам: вострыя прадметы правезці праз мяжу немагчыма. А як жа іспанская гісторыя — і без шпаг? Дэкарацыі «Сабакі на сене» простыя, але яркія і запамінальныя: велізарны іспанскі веер, выгнутыя шпагі, каваныя клеткі і манекены. Калі пачынаецца рэпетыцыя, зазіраю на сцэну: Дзіяна (Ілона Казакевіч) ходзіць з шыкоўнай прычоскай, са шпагай у руках і ў цёплай куртцы. Рэпеціруюць дуэль з Тэадора (ён зараз у джынсах і талстоўцы). Акцёры на сцэне змяняюць адзін аднаго, наладжваюць мікрафоны, праходзяць складаныя сцэны. Але нават у грымёрках артысты не спыняюцца спяваць… За гадзіну да пачатку я пакідаю закулісе і сыходжу ў фае прадаваць праграмкі. Яны разлятаюцца як гарачыя піражкі, купляюць нават перад самым трэцім званком, чаго ў Мінску звычайна не бывае.

Першае дзеянне — і тут жа нечаканасць: у актрысы раз'ехалася маланка на спадніцы. Яна знікае са сцэны настолькі хутка, што яе адсутнасць не адразу заўважаюць нават партнёры (даводзіцца бегчы ў грымёрку за шпількамі). Але не мінае і хвіліны, як гераіня на сцэне, падхоплівае сваю рэпліку.

За кулісамі наогул абсалютна ўсё робіцца хутка. Часам ёсць усяго некалькі хвілін на тое, каб пераапрануць сукенку, змяніць прычоску, знайсці патрэбны рэквізіт. Неацэнная дапамога для акцёраў — касцюмер і па сумяшчальніцтве памрэж Ірына Рымша. Яна прымудраецца адной рукой папраўляць брошку ў валасах, а другой зашпільваць на актрысе гарсэт. Наступнае выпрабаванне: артыст Дзмітрый Якубовіч не можа знайсці капялюш. Шамхал Хачатуран, які выконвае ролю Маркіза Рыкарда, ужо працягвае яму свой, але Федэрыка знаходзіць прапажу: два разы аббягае сцэну, але да сваёй рэплікі паспявае своечасова — з капелюшом у руках і нават не запыхаўшыся.

Першае дзеянне, бурнае і яркае, праходзіць на адным дыханні. У глядзельнай зале — ніводнага свабоднага месца. У антракце гледачы раскупляюць апошнія праграмкі і падыходзяць распытаць пра акцёраў, якія ім спадабаліся… Пасля кароткага перапынку каманда прыступае да другога акта. Пакуль на сцэне Дзіяна высвятляе адносіны з Тэадора, акцёры Сяргей Жараў і Шамхал Хачатуран за кулісамі парадзіруюць сваіх калег і падпяваюць ім — бясшумна. А як толькі сцэна скончана, Ілона Казакевіч знаходзіць хвілінку, каб прысесці і зняць 15-сантыметровыя абцасы…

За некалькі хвілін да фіналу я вяртаюся ў фае, каб раскласці сувеніры. Пасля спектакля людзі падыходзяць, каб выказаць падзяку і пахваліць каманду. Аказваецца, хтосьці хадзіў на спектаклі «Тэрыторыі мюзікла» ў Мінску і чакаў прыезду беларускай трупы: «Вы тут як свае. Прыязджайце яшчэ!»

**Аляксандра ГАРАЧКА**

# Viva la Cinema!

## і іншыя фільмы кастрычніка

***У гэтым месяцы ў мінскіх кінатэатрах можна «сагрэцца» стужкамі італьянскіх рэжысёраў, скандальнымі фільмамі Кірыла Сярэбранікава і Франсуа Азона.***



**1.** Сёлета фільм **«Франц» Франсуа Азона** атрымаў прэмію Марчэла Мастраяні на Венецыянскім кінафестывалі. Стужку знакамітага француза варта паглядзець нават не з-за каштоўнай узнагароды і не таму, што зняў яе скандальна вядомы рэжысёр. «Франц» вяртае ў часы, калі жанчыны хадзілі ў вытанчаных сукенках і з ідэальнымі прычоскамі, калі не было каляровага кінематографа, а еўрапейцы вярталі да жыцця свае краіны. Адчуць не хуткасць сучаснасці, а чароўную павольнасць таго жыцця дапамогуць героі «Франца», якія раскажуць з вялікага экрана пра каханне, пакуты, старыя раны. Прагулкі па Луўры, жахлівыя таямніцы, забароненыя пачуцці. На адной з прэс-канферэнцый Азон сказаў, што тэма хлусні цікавіла яго з дзяцінства, і праз столькі гадоў рэжысёр нарэшце даў ёй выхад.



**2.** Добрая нагода для тых, хто хоча вучыць італьянскую мову, — **тыдзень італьянскага кіно** ў кінатэатры «Перамога». Там пакажуць 4 сучасныя стужкі на мове арыгінала з субцітрамі — ніякага дубляжу, каб глядач акунуўся ў сапраўдную Італію і атрымаў асалоду ад прыгожай мовы.

Асаблівую ўвагу трэба надаць фільму «Дзіўны юнак» Марыа Мартонэ. Гэта кіно пра паэта Джакома Леапардзі, дзе можна пазнаёміцца і з біяграфіяй генія, і з гісторыяй яго адзіноцтва, і з пакутамі творчасці. Дарэчы, у 2017 годзе будзе адзначацца 180-годдзе Леапардзі. Тыдзень італьянскага кіно — добры спосаб яго адсвяткаваць.



**3.** Наўрад ці нямецкі драматург Марыус фон Маенбург калісьці думаў пра тое, што яго п'еса «Пакутнік» стане фільмам. **Кірыл Сярэбранікаў** не толькі зрабіў выдатную экранізацыю **«Вучань»**, але і атрымаў за яе прыз Франсуа Шале на Канскім кінафестывалі. У стужцы шмат пытанняў, але, спадзяюся, столькі ж і адказаў. Кіно пра тое, як школьнік стаў рэлігійным фанатыкам, пра тое, чаму свет менавіта такі, які ёсць, чаму на Зямлі столькі зла і блюзнерства і так мала веры. Галоўны герой фільма Веня мяркуе, што ведае ўсё пра этыку і мараль, але не разумее таго, што стаў для сваіх блізкіх сапраўдным пакутай. Да чаго прывядуць пошукі веры — да кансэнсусу ці ісціны? Сам рэжысёр адзначае, што гэта фільм-дыскусія пра тое, што цуд у нашым жыцці сапраўды ёсць.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# НОВАЕ КОЛА

## Пра што гавораць з гледачом беларускія рэжысёры?

**Маладыя, часам нясмелыя, айчынныя рэжысёры сёння спрабуюць у сваіх стужках выказацца пра ўсё, што адбываецца ў грамадстве. Тут можна ўбачыць і жарты над сабой, і сур'ёзныя развагі пра вырашэнне лёсу. Беларускія кінематаграфісты шукаюць у сваіх фільмах сябе. Да гэтага ж заклікаюць і гледачоў.**



*Кадр з фільма «Эстафета» (рэж. М. Пархоменка).*

### ЖАРТЫ

Як паказваюць вынікі фестывалю кароткаметражнага кіно «*Kinostepa*», у Беларусі маладога кіно хапае. Да таго ж хапае фільмаў пра ўсё на свеце! Рэжысёры ўмела знаходзяць баланс паміж асабістым і грамадскім, гістарычным і сучасным, фантазіяй і рэчаіснасцю.

Кінематаграфісты сёння вырашаюць быць сапраўды смелымі: напрыклад, адкрыта высмейваюць кіно ў сваіх жа стужках, як гэта зрабіў Аляксандр Максімаў у фільме «Міма церняў»: «Ідэя прыйшла банальная: я вучыўся ў кінашколе, задумваў стужку як пародыю, шарж на пачынаючых кінематаграфістаў, якія вельмі высокага меркавання наконт сваіх фільмаў. Але сталася так, што кіно ўзняло шмат іншых праблем кшталту творчых пакут рэжысёраў, адбору на фестывалі. Калі коратка — стужка пра шлях маладога рэжысёра».

Спачатку можа падацца, што кіно ўвогуле аб праблемах на працы, якія ў рэжысёраў таксама здараюцца. Але, пачакаўшы некалькі эпізодаў, разумееш: гэта фільм у фільме. Мы чамусьці ўяўляем сабе рэжысёраў узнёслымі, высакароднымі, таму і пытаемся: «А хто натхніў вас? Феліні? Антаніёні?» і зусім не чакаем адказу: «Генадзь Аляксеевіч, сусед». І ўсё перастае быць такім фантазійным, "у ружовым свеце", бо ў стужцы вельмі шмат сапраўднага — хоць бы тое, што выпускнікі-творцы ідуць пасля ўніверсітэтаў здымаць чужыя вяселлі ці рэкламы. Аляксандр кажа, што кіно зняць у Беларусі даволі лёгка: галоўнае — добрая ідэя і мысленне катэгорыямі, якія дасяжныя: «Каб у нас развівалася кіно, патрэбна падтрымка — фестывалі, гранты. Разам з узроўнем рэжысёра вырасце і цікавасць гледача. Думаю, многія ўжо стаміліся ад чарговай часткі "Мсціўцаў", хочацца ўбачыць штосьці сваё пра свет, дзе мы жывём».

### РАЗВАГІ

Андрэй Калеснікаў у сваёй стужцы «Я — творца» зняў узыходзячую зорку беларускага кіно Аляксандра Лясько. Фільм пра асабістае — на прыкладзе героя бачым, як працуе тое, што мы называем лёсам, колькі «развязак» можа быць у адной і той жа гісторыі і што выбар заўсёды робіць сам чалавек, кажа рэжысёр: «Кіно пра тое, што лёс у нашых руках і не трэба дазваляць вырашаць за нас камусьці яшчэ. Асаблівa ўнутраным сумненням».

Тэму выбару нябачна працягваюць і іншыя стужкі. Напрыклад, «Васількі» Алены Аляксанэ, здаецца, зусім не пра тое. Кіно пра кветкі, якія, дарэчы, не васількі зусім, моцна ўрэзаліся ў памяць галоўнага героя. Але яны цяпер сталі падставай для выбару, менавіта праз іх чыёсьці шчасце ператвараецца ў чужое няшчасце.

«Палова мяне» Андрэя Палупанава — кіно сацыяльнае. Хаця нельга сказаць, што іншыя стужкі несацыяльныя. Ды гэта і немагчыма: усе яны расказваюць пра нас. Але ў гэтым фільме ўздымаюцца тэмы, на якія многія рэжысёры выказвацца не спяшаюцца: праз хатні гвалт Палупанаў паказаў духоўную моц жанчыны. Зноў жа паўстае праблема выбару: нешчаслівая сям'я, так званы стакгольмскі сіндром, ці сыход. Нельга не адзначыць, што некаторымі дробязямі стужка нагадвае адну вядомую беларускую гісторыю — пра тое, як маленькі Ізяслаў абараняў ад бацькі сваю маці Рагнеду. Атрымалася кіно не толькі з актуальным, але і гістарычным сюжэтам.

Валерыя Целяшэўская, вучаніца Андрэя Палупанава, расказала гледачу амаль пра тое ж, але іншымі фарбамі — кіно атрымалася вельмі вольным, у некаторых момантах з элементамі хорару, а часам — камічным. Як вынік — смерць героя ад… яечні. Сама Вікторыя кажа, што рэжысёрам сябе пакуль не лічыць: «Я, як у "Папялушцы", не чараўнік, а толькі вучуся. Але працэс здымак мне вельмі падабаецца: гэта лёгка, гэта зацягвае, асабліва калі побач добрая каманда».

### ПАЧУЦЦІ

Зусім прафесійнай, вельмі стыльнай, нават экстравагантнай атрымалася стужка Дзмітрыя Рачкоўскага і Андрэя Крывецкага «20:16». Знятае неверагодна прыгожа, з густам і адчуваннем сувязі колеру з настроем, кіно распавядае пра татальную адзіноту, калі побач з чалавекам няма нікога і нічога, акрамя надзеі, якая гэтым усім і становіцца. Галоўны герой, ролю якога выканаў акцёр тэатра імя Горкага Сяргей Юрэвіч, кожны дзень чакае адной і той жа хвіліны, асабістага рытуалу, — шаснаццатай пасля васьмі, калі ён можа адправіць ліст чалавеку, якога, безумоўна, кахае. Чаму кахае? А гэта зразумела: ён спіць з коўдрай, абдымаючы яе як чалавека. Пасля аднаго выпадку жыццё героя перастае мець сэнс, ён хоча жыцця новага, але наўрад ці да яго гатовы. Фільм пра адзіноту, надзею, пошукі сэнсу, зняты па сцэнарыі вядомага беларускага драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага.

Стужка Васіля Цыбулькі «Халасцяк», па словах самага рэжысёра, пра «інстытут шлюбу ў сучасным беларускім грамадстве, пра пошукі залатой сярэдзіны ў пытаннях часу і псіхалагічнай сталасці, калі гатовы да шлюбу. Дзве крайнія кропкі сустракаюцца ў спробе знайсці гэтую самую залатую сярэдзіну».

Кіно пра двух сяброў, якія не бачыліся, як гэта бывае, шмат гадоў, а калі сустрэліся, то зразумелі, што выбралі абсалютна розныя шляхі: адзін жаніўся, знайшоў працу ў офісе, другі свабодны і ездзіць у краму на роліках. Сутыкненне двух розных поглядаў, меркаванняў, нават розумаў дае даволі прадказальны вынік: яны разыходзяцца ў супрацьлеглыя бакі.

### РЭЧАІСНАЦЬ

Надзвычай прыгожыя беларускія пейзажы можна ўбачыць у стужцы Валерыя Навічкова «Адз1н». Але кіно зусім не пра прыроду — хаця пра прыроду, канечне, але пра чалавечую. Фільм здымалі ў Рагачове (менавіта там і знаходзіцца студыя Валерыя), таму рэжысёр кажа, што не абышлося і без насмешак (у правінцыяльным горадзе да ідэі стужкі Навічкова аднесліся скептычна, а на «*Kinostepe*» ацанілі — фільм стаў віцэ-чэмпіёнам фестывалю).

Кіно атрымалася лёгкім, з гумарам і беларускай рэчаіснасцю на экране: Навічкоў па-новаму расказаў гледачу пра тое, якім можа быць выкуп на вяселлі і ці будзе пасля гэтага выкупу вяселле наогул: «Задачай для мяне было не схавацца за артхаусам. Я хацеў стварыць зразумелае кіно з элементамі экшну, камедыі, добрай акцёрскай ігрой, ноткамі самабытнасці, характэрнымі менавіта для беларусаў. І, калі меркаваць па рэакцыі гледача, усё спраўдзілася і мы на правільным шляху».

Галоўны прыз «*Kinostepы*» ў нацыянальнай праграме атрымаў фільм Міхаіла Пархоменкі «Эстафета» пра тое, як суседзі шукалі на сваіх гародах скарб, а знайшлі бомбу. Галоўныя пытанні — куды бомбу падзець і каму яе аддаць — вырашаюцца на працягу стужкі. Па дарозе да горада, куды беларус вязе бомбу, мы ўбачым нашу рэчаіснасць без прыўкрас — стаўленне суайчыннікаў да чужых праблем, уменне браць на сябе адказнасць і, зноў жа, неверагодны прыгажосці родную прыроду. Ролі выканалі вядомыя тэатральныя акцёры, некаторыя з вялікай фільмаграфіяй, менавіта гэтых людзей Міхаіл Пархоменка і хацеў задзейнічаць у стужцы — зоркі сышліся.

Насамрэч кіно цікавае тым, што адлюстроўвае тыповага беларуса. Пра гэта кажа і рэжысёр: «Стужка пра тое, як перакладаць адказнасць на іншых, пра выраз "мая хата з краю", пра наш менталітэт. Гэта роад-муві — жанр, які не вельмі папулярны ў Беларусі, і я хацеў зняць кіно сучаснае і ў цікавым жанры, які айчыннаму кіно не ўласцівы. Хацелася, каб глядач сябе пазнаў, каб кіно глядзелася лёгка. "Эстафета" — камедыя і драма ў адным флаконе, усё як у нашым жыцці».

Што аб'ядноўвае ўсе гэтыя стужкі? Яны пра нас рэальных. Рэжысёры сёння не цураюцца айчыннага, наадварот. Яны шукаюць у нашай краіне тэмы, герояў, лакацыі для здымак. На экране можна ўбачыць знаёмыя станцыі метро, пероны вакзала, гарадскія вуліцы. І такіх жа знаёмых людзей. Шукаць адказы на вечныя пытанні рэжысёрам і не трэба — ёсць тэмы і навокал, а кола іх — нашмат шырэйшае, чым мы можам сабе ўявіць.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Валянцін СІЛЬВЕСТРАЎ: «Я ператвараюся ў вялізнае вуха»

**Украінскі кампазітар Валянцін Сільвестраў прыехаў у Беларусь, каб узяць удзел у фестывалі Юрыя Башмета, але і не згубіў магчымасці паразмаўляць з будучымі калегамі з Акадэміі музыкі, дзе і адбылася сустрэча з вядомым выканаўцам.**

З 80-х музыка многіх кампазітараў гучала на творчых вечарах, святах. Але Валянціна Сільвестрава такая слава абмінула — яго твораў у канцэртным выкананні было не пачуць. Аўтара вядомых «Ціхіх песень» адзначаў Тэадор Адорна, а за яго творчасцю сачыў нават Альфрэд Шнітке. Сваёй музыкай кампазітар прымушаў публіку ўваходзіць у стан трансу, нірваны. Тое ж адбываецца і цяпер. Кампазітар Галіна Гарэлава сказала пра «Сімфонію № 5» Сільвестрава: «Нягледзячы на тое, што там цішэйшыя гукі, яна стала бомбай, якая ўзарвалася. У гэтым творы было ўсё: непрыдуманая навізна, адсутнічалі гучныя кульмінацыі. Для мяне гэта нейкая постцывілізацыя. Мае сябры сказалі, што гэта працывілізацыя, бо тое, што яшчэ павінна было рэалізавацца, ужо было тут».

Сам Валянцін Васільевіч кажа, што так і планавалася — менавіта такой рэакцыі ён і чакаў: «Сімфоній тады амаль не пісалі, але тыя, што былі, неверагодныя, пасля іх проста немагчыма было яшчэ штосьці рабіць. Сімфанізм акружаны няшчасцем, бедамі. Там тонкая лірыка, і сімфонія — хутчэй за ўсё рэакцыя на нейкія нешчаслівыя падзеі. Я думаю, што трэба рэагаваць на падзеі сучасныя, бо не магу ж перадаць боль, які не адчуваў, таму вырашыў, што сімфонію трэба перакручваць, перагортваць. І зрабіў яе такой, якой чуеце».

На творчую сустрэчу падтрымаць Сільвестрава прыйшоў яго сябра расійскі музыкант Аляксей Любімаў. З яго імем, таксама як і з імем Сільвестрава, звязана адкрыццё іншага ў музыцы. Яны — менавіта тыя творцы, да якіх лепш за ўсё падыходзіць слова «віртуоз», але для Любімава ў сучасным сэнсе «хуткія пальцы — нішто ў параўнанні з тым, што павінна даць музыка. Віртуознасць заключаная ў адточанасці. Для мяне гэта слова супрацьлеглае слову "таямніца"».



*А. Любімаў, Г. Гарэлава і В. Сільвестраў падчас творчай сустрэчы.*

Валянцін Сільвестраў раскрывае таямніцы. Напрыклад, што такое сімфонія. А гэта, кажа кампазітар, «эсэ, філасофскі тэкст». Імя Сільвестрава вядомае музыкантам яшчэ і па выразе, аўтарам якога ён з'яўляецца: «акадэмізацыя авангарда». Тлумачыць Валянцін Васільевіч яго зразумела і істотна: «Авангард не можа спыніцца — за ім трэба ісці, але невядома, што з гэтага атрымаецца. І, самае галоўнае, ён не спыняецца не таму, што не хоча, а таму, што па-іншаму проста не можа. Авангарднае ў авангардным збірацца не павінна: калі твор авангардны, то ён мусіць узнікнуць нечакана, калі ніхто і падумаць пра яго не мог».

Сільвестраў лічыць авангард наогул паняццем падазроным і дае ілюстрацыю: узгадвае пра тое, што ў творы «Вій» у Гогаля ёсць момант, калі павозка выязджае на дарогу, якая ідзе рэзка ўніз, а калёсы пачынаюць біць коней па нагах: «Вось гэта і ёсць авангард — калі цябе б'юць, гоняць, ты думаеш, што ідзеш наперад, а насамрэч за табой пагоня. І ты бяжыш не таму, што хочаш наперад, а таму што іншага шляху няма. Авангард — яшчэ і творчая рызыка. Авангардыст нагадвае першага чалавека, які адважваецца прайсці па тонкім, толькі што замёрзлым лёдзе, а ўжо за ім ідуць астатнія».

Размова заходзіць пра тое, што ж сёння рабіць маладому кампазітару? Сільвестраў кажа, што музыка сёння ператварылася ў катэгорыі агульныя, а каб дапамагчы ў ёй разабрацца, трэба «навучыць людзей праз музыку слухаць свет. Мы апынуліся ў той сітуацыі, што музыка павінна прыйсці да нармальнага маўлення, трэба шукаць нечаканасць унутры пакоры».

Аляксей Любімаў на тое ж самае пытанне адказвае так: «На каго арыентавацца, куды ісці? Стыляў і напрамкаў шмат, ніхто не можа сказаць, які з іх галоўны. У пасляваеннай музыцы "расслаілася" шмат плыняў, і што рабіць маладому музыканту — пытанне актуальнае. Мне падаецца, трэба браць на ўзбраенне нейкія асабістыя прынцыпы (не мае значэння, яны будуць архаічнымі ці сучаснымі)».

Вяртаючыся да новага і архаічнага, нельга не сказаць, што Валянцін Сільвестраў зараз піша новы твор — «Нябесную музыку». Пра гэта амаль нічога не гаворыць — яно і зразумела: рэдкі творца распавядае пра запланаванае, таму адказвае ўскосна: «Ёсць музыка, якая пішацца, а ёсць тая, якая ўжо напісана, але яе трэба дачакацца. Яе трэба ўлавіць як матылька ў сачок. Не магу сказаць, што я штосьці пісаў — толькі музыку на замову, для кіно. Я нічога не пішу — у мяне асадкі няма, але працую слыхам. У мяне такое адчуванне, што я ператвараюся ў вялізнае вуха. Вуха піша — рука маўчыць. Музыка, напісаная на паперы, можа быць добрай, але тая, якая вытатуіраваная ў памяць, істотная, яна ўлоўліваецца. Я спрабую пачуць, і музыка мяне запрашае».

Адзін з самых таямнічых твораў Валянціна Сільвестрава — «Ціхія песні». Узнікае пытанне: а чаму яны ціхія? Ці толькі таму, што спяваюцца напаўголаса? Напэўна, не. Цішыня для кампазітара — катэгорыя нашмат шырэйшая і больш асабістая: «Ёсць цішыня літаральная і такі ж голас. "Ціхія песні" пісаліся ў авангардную эпоху, калі экспрэсіянізм быў у разгары. Я адчуў, што тут нешта не тое, бо авангардная музыка была музыкай працэсу, слова патанала ў агульнасці. Але ж музыка і слова павінны быць адзіным цэлым! У нас вакалісты вельмі гучныя, часам занадта. Я вырашыў, што трэба даць твору асцярожна дакрануцца да слухача, хацеў, каб і выканаўцы ставіліся да музыкі з павагай. "Ціхасць" была звязаная з той эпохай, якая была гучнай, а ў мяне была патрэба ў гэтай цішыні. Мелодыя — самае каштоўнае ў музыцы, але слова і мелодыя павінны зліцца ў непаўторную інтанацыю».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**Валянцін Васільевіч Сільвестраў нарадзіўся ў Кіеве. Скончыў музычную школу, з 15 гадоў спрабаваў пісаць музыку, але паступіў у інжынерна-будаўнічы інстытут, які кінуў пасля трох гадоў вучобы, і паступіў у Кіеўскую кансерваторыю. Уваходзіў у творчую групу «Кіеўскі авангард», працаваў у кіно: напісаў музыку да чатырох фільмаў Кіры Муратавай. Лаўрэат міжнародных прэмій, народны артыст Украіны, аўтар дзесяці сімфоній, трох струнных квартэтаў, камерных, вакальных і харавых сачыненняў.**

***Не прамініце!***

## Класічнае

Музыка на стагоддзі, беларуская. Тая, якую асабліва любіць і актыўна ўзнаўляе для слухача мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлы» заслужаны артыст Беларусі Віктар Скарабагатаў. Канцэрты з гісторыі музыкі ці музыкі з гісторыяй час ад часу выконваюцца ў тэатры. Новую праграму «Чатыры стагоддзі беларускай вакальнай музыкі» ў кастрычніку можна будзе паслухаць дзякуючы яе мастацкім кіраўнікам Віктару Скарабагатаву і Ганне Каржанеўскай.

У малой зале Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі адбудзецца музычная вандроўка з удзелам выдатных спевакоў. Яны агучаць чатыры стагоддзі, за якімі імёны і творы: Міхала Клеафаса Агінскага, Антонія Радзівіла, Станіслава Манюшкі, Напалеона Орды, Флярыяна Міладоўскага, Яна Тарасевіча… Ва ўступным слове слухачам патлумачаць, як і чаму з'явілася праграма з такімі імёнамі. Але і музыка гаворыць сама за сябе: яна адлюстроўвае эпохі, перадае іх настрой і ідэі. Музыка існуе і па-за часавымі рамкамі, у чым будзе магчымасць пераканацца, напрыклад, калі тэнар Юрый Гарадзецкі заспявае беларускую народную песню «Ой, калінушка!..». Ці калі сапрана Алена Золава выканае «Цераз рэчаньку, цераз балота падай ручаньку, мая залота...». А барытон Ілья Сільчукоў выканае песню Рыгора Пукста на словы Янкі Купалы «Шумныя бярозы», якую часта ўспрымаюць як народную (яна сапраўды пайшла ў народ). Тры выдатныя спевакі, што працуюць у тэатры, 20 кастрычніка пакажуць сольныя вакальныя творы пад акампанемент маладых піяністак Дзіяны Моршневай і Паліны Задрэйк.

## Джазавае

Беларуская філармонія запрашае на новую праграму залатых стандартаў *Great American Songbook*. 13 кастрычніка ў яе межах на канцэртнай пляцоўцы выступіць амерыканская джазавая спявачка Іў Карнэліус.

Сёння Іў добра вядомая не толькі ў роднай краіне, але і ў далёкім замежжы (артыстка актыўна гастралюе па краінах СНД). Кар'еру спявачкі Карнэліус пачала з перамогі на адным з музычных тэлешоу, а працягнула ў джазавых клубах, выступаючы з папулярнымі музыкантамі і выпрацоўваючы ўласны стыль выканання.

Джаз-кампазіцыі, якія напісала і выканала спявачка, заўсёды ёсць у плэй-лістах амерыканскіх радыёстанцый. Слухачы кажуць, што яе голас здольны зачараваць. Іў далікатна ставіцца да працы з каверамі кампазіцый сваіх куміраў — Элы Фіцджэральд, Білі Холідэй… Яна працягвае джазавую традыцыю вялікіх вакалістаў, дадаючы свае непаўторныя ноткі.

Іў Карнэліус — удзельніца і лаўрэат многіх джазавых фестываляў, а яе гастрольныя туры адбываюцца па ўсім свеце (спявачка выступала ў краінах Еўропы, ЗША, у Японіі, на Кубе). Зараз Іў яшчэ працуе выкладчыкам джазавага майстэрства ў адным з амерыканскіх універсітэтаў і з'яўляецца аўтарам ідэі вакальнага джазавага фестывалю *JaZzVoxfest*.

Выступленне Іў Карнэліус мае быць сапраўды адметным: спявачка падрыхтавала для слухачоў прыемны сюрпрыз. Сёлета яна выступіць з песнямі з залатога фонду амерыканскага джаза ў суправаджэнні нью-ёркскага джазавага трыа.

## Папулярнае

Восьмага кастрычніка ў мінскім клубе *Re:Public* можна будзе паслухаць «Рок за жыццё». Беларускія музыканты «Дай дарогу», «*Re1ikt*», «Мутнаевока», «*:B:N:*», «*Sciana*» і «Тлушч» дадуць вялікі канцэрт для беларусаў і выканаюць свае лепшыя песні.

Падзея абяцае быць грандыёзнай, бо ўсе ўдзельнікі — добра вядомыя і любімыя музыканты. «Дай дарогу» — брэсцкі панк-рок гурт, лаўрэат шматлікіх музычных прэмій, «Гурт года» ў 2012-м і «Артыст года» ў 2015-м.

«*Re1ikt*» — гурт, які гарманічна спалучае моцную энергетыку з арыгінальным гучаннем, як кажуць самі музыканты. Шмат увагі «*Re1ikt*» надае традыцыйнаму беларускаму фальклору, робячы яго актуальным для слухачоў, якія шукаюць у музыцы нешта новае.

«Мутнаевока» — своеасаблівая з'ява ў альтэрнатыўнай музыцы. Творы гурта ўвабралі ў сябе найбольш маляўнічыя дэталі панка, року і поп-музыкі, група стварыла непаўторны вобраз «бунтароў-рамантыкаў».

Можна будзе пачуць і легендарны гурт «*:B:N:*», які нарадзіўся ў горадзе Бяроза, але хутка стаў папулярным не толькі на малой радзіме, але і за межамі Беларусі. Іх песні сталі амаль класічнымі для сучасных беларусаў.

«*Sciana*» — яшчэ адзін беларускі гурт альтэрнатыўнай музыкі, чыя папулярнасць ужо даўно выйшла за межы роднай краіны. Апошні калектыў, які выступіць на «Року за жыццё», — «Тлушч». З 2012 года музыкі спалучаюць панк з сальсай, дыска і іншымі стылямі. За гэты час гурт адыграў паўсотні канцэртаў у Беларусі і нават з'ездзіў у невялікі еўратур.

# Абраз як вобраз Божы



*«Маці Божая Замілаванне», 1656 г.*

Гэта было сімвалічна для Года культуры ў Беларусі: у Міжнародны дзень музеяў, 18 мая, выстаўка «Іканапіс Беларусі XVII — XXI стагоддзяў» са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі адкрылася ў будынку пінакатэкі ў музеях Ватыкана. Знакавая і важная падзея стала сапраўдным святам для нашай краіны: італьянскія спецыялісты і шматлікія турысты з усяго свету пазнаёміліся з унікальнымі творамі беларускай сакральнай культуры. У канцы мінулага тыдня тая ж выстаўка толькі пад назвай «Свет нябесны на зямлі» была прэзентавана ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Яе афіцыйна адкрылі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рымска-каталіцкай царквы арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Яшчэ ў Ватыкане выстаўка складалася з трыццаць аднаго абраза і двух акладаў, у Мінску экспанатаў прадстаўлена ўтрая больш. Сярод іх — абразы, алтарныя карціны, мастацкае ткацтва і прадметы для адпраўлення літургіі. Самаму старадаўняму экспанату — больш за пяць стагоддзяў. Тут розныя галіны хрысціянства спалучыліся ў адно цэлае. На адкрыцці выстаўкі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рымска-каталіцкай царквы арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў:

— Цягам Года культуры ў Беларусі ўжо адбылося мноства важных і знакавых мерапрыемстваў. Адным з іх стала адкрыццё выстаўкі праваслаўных і каталіцкіх ікон у музеях Ватыкана. Як добра, што там знайшлося месца для беларускіх праваслаўных і каталіцкіх абразоў! Гэта вялікая падзея, якую асабістым візітам адзначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Паколькі ў ватыканскіх музеях кожны дзень адбываюцца пэўныя мерапрыемствы, то людзей там заўсёды шмат. Але столькі народу, колькі было там на адкрыцці нашай выстаўкі, бывае зрэдку. Гэта знак таго, што мы еўрапейская Беларусь, якая знаходзіцца ў цэнтры кантынента і дыхае двума лёгкімі — лёгкім заходняга і ўсходняга хрысціянства.

Так склалася гістарычна, што на Беларусі стагоддзямі жывуць людзі розных канфесій, розных веравызнанняў. Дзякуючы гэтаму нашы культуры перапляталіся і ўзбагачаюцца. Беларускі народ вельмі любіць іконы. Колькі ў каталіцкім касцёле і праваслаўнай царкве кожны дзень людзей стаіць перад абразамі, асабліва Божай Маці — Будслаўскай, Уладзімірскай, Мінскай, Казанскай…

Адкрыццё выстаўкі «Свет усіх святынь» — падзея знакавая не толькі для Года культуры і для грамадства, але яшчэ і для музея: выстаўка дэманструе, што музей — не мінулае, не статыка, а дынаміка. Такім чынам, музей як арганізацыя, якая не мае фактычна ніякай агульнасці з касцёлам альбо царквой, у той жа час выконвае функцыю новай евангелізацыі.

Экспазіцыя «Свет нябесны на зямлі» атрымалася шматграннай і, па словах міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, дазваляе прасачыць развіццё беларускага духоўнага мастацтва, якое, дарэчы, праходзіла праз складаныя часовыя шляхі. Тут акрамя традыцыйных рэлігійных абразоў сустракаюцца выявы народных касцюмаў, бытавых прадметаў, гарадскіх і сельскіх пейзажаў. Гэта з'ява — сведчанне таго, што беларускія майстры прыўнеслі ў рэлігійную культуру рысы зменлівасці, дынамічнай пабудовы твораў.

Асаблівасці школы беларускага іканапісу праяўляюцца ў выкарыстанні арнаментальнага пазалочанага фону, масіўных разьбяных рам, у роспісе ў народным стылі. Вельмі важна, што выстаўка дазваляе зразумець, як развівалася мастацтва іканапісу ў мінулыя эпохі і што яно ўяўляе сабой у сучаснасці. Напрыклад, у аснове экспазіцыі прадстаўлены іконы сучаснага мінскага іканапісца Андрэя Жарава, які абапіраецца на традыцыйную форму выяўлення святых, але ж падбірае абсалютна іншыя, нязвыклыя для іканапісу спалучэнні колераў.

Паколькі Беларусь па сваім геаграфічным становішчы знаходзіцца паміж Захадам і Усходам, гэтая асаблівасць праяўляецца ў рэлігійным жывапісе краіны. Па словах загадчыка аддзела візантыйскага і сярэднявечнага мастацтва музеяў Ватыкана Гвіда Карніні, які таксама прысутнічаў на вернісажы, такая асаблівасць — цудоўная магчымасць убачыць, як розныя традыцыі спалучаюцца і ўжываюцца ў адным грамадстве. Паколькі ў Італіі выстаўка выклікала вялікую цікавасць, то, па меркаванні Гвіда Карніні, на радзіме яна павінна стаць доўгатэрміновым мастацка-духоўным святам.



*«Царскія вароты», сярэдзіна XVIII стагоддзя.*

«Свет нябесны на зямлі» прадстаўляе той гістарычны культурны пласт, які неаднойчы падпадаў вынішчэнню. Але гэта творы мастакоў, якіх натхняла Божае слова, якое гучала ў сэрцы, таму яны захаваліся і цяпер уяўляюць сабой погляд чалавека ў свет, акно ў хрысціянскую веру, праз якое можна ўбачыць шлях паратунку ад шматлікіх бедстваў. Дарэчы, па папярэдніх звестках, выстаўка ў залах Нацыянальнага мастацкага музея будзе працягвацца да трыццатага студзеня 2017 года.

**Вікторыя АСКЕРА**



## *Культурны ракурс*

**Славутасць Гомеля — палац Румянцавых-Паскевічаў — ведаюць усе, але ёсць у вобласці помнікі культуры, як кажуць, не на слыху. Пра сядзібу пана Рудзяеўскага ў вёсцы Пярэдзелка Лоеўскага раёна я даведаўся з кнігі вядомага польскага гісторыка і краязнаўцы Р. Афтаназі. Вельмі ўразіў манументальны выгляд галоўнага будынка, а таксама сад па яго баках. І цяпер сядзіба пана Рудзяеўскага, куды я завітаў падчас чарговага падарожжа, глядзіцца маляўніча і прывабна на зялёным фоне дрэў. У будынку размяшчаюцца Суткоўская (вёскі Суткоў і Пярэдзелка мяжуюцца адна з адной) сярэдняя школа і яслі-сад. Можна шчыра пазайздросціць дзецям, якія навучаюцца ў сапраўдным палацы!**

**Максім ШАСТАКОЎ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфаваца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 6.10.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1594.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4038

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686